
Фэст у Орлі→3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


Курган→12

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 37 (3044) Год LIX Беласток, 14 верасня 2014 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

**Вясёлка ўсміхнулася над Крынкамі і жураўлі праляцелі, калі шматметровы паток вады страляў у неба з мясцовых руін Вялікай сінагогі на скрыжаванні вуліцы Гарбарскай і Школьнага завулка. Дакладна з таго месца, дзе дзясяткі гадоў таму чыталі і тлумачылі Тору.**

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

# Рэанімацыя або Аднаўленне памяці



Злева: Міністр Малгажата Амільяноўская, Аліцыя Лышковіч, Лявон Тарасэвіч, Анда Ротэнберг, Міраслаў Балка, Анна Пецюль - дырэктар бюро культуры беластоцкай управы

— Рэанімацыйнай працэдурай было вяртанне гэтаму месцу дыхання, стварэнне прасторы, якая будзе жыць. Увядзенне крыніцы вады ажыўляе і зноў вызначае гэтае месца — свой арт-праект ажыццявіў тут скульптар, аўтар установак, нярах звяртаючыся да праблем прамінання і Халакоста, чые працы знаходзяцца ў найбуйнейшых калекцыях свету, прафесар Міраслаў Балка.

Мерапрыемства было злучным звяном паміж «Трыялогам», завершаным некалькі дзён таму ў Крынках, і фестывалем «Усход культуры — Іншае вымярэнне». На другі, суботні, дзень «Трыялога» (23 жніўня) маэстра Балка завёў яго ўдзельнікаў у высокія на некалькіх метраў зараслі поўныя разнастайнай дзікай расліннасці. Распавёў аб праекце, да рэалізацыі якога перэканаў яго іншы сусветнавядомы мастак праф. Лявон Тарасэвіч, стваральнік «Трыялога» — працягу «Беларускіх трыялогаў» Сакрата Яновіча.

— Мы не можам пачынаць прац сёння ці заўтра, таму што гэта яўрэйскае свята. Пачнем у панядзелак. Я запрашу да высякання кустоў добраахвотнікаў, назваў я іх дружынай. Расліны збярэм і апішам з дапамогай эксперта па батаніцы, — сказаў ён тады.

Паказваў зашклёныя рамы, у якіх апынуцца расліны з іх лацінскімі назвамі, на ідыш, на беларускай і польскай мовах. Такім чынам узнікаў гербарый.

## Гарбарская, 5

Крынкі да апошняй вайны — горад чатырох сінагог. Ад Вялікай сінагогі засталіся камяні на камянях. Да другой паловы жніўня пакрывалі іх заранікі, сярод якіх расло, па меншай меры, семдзесят відаў раслін, многія лацінскія назвы якіх не чужыя толькі батанікам. Вялікая сінагога па Гарбарскай, 5 была пабудавана ў дзевятнаццатым стагоддзі, у класічным стылі, на месцы былой сінагогі, пабудаванай у сярэдзіне васямнаццатага стагоддзя. Гэта быў двухпавярховы цагляны будынак на прамавугольнай падставе, абтынкаваны, з вялікім тамбурам і дзвюма прыбудовамі, пакрытымі падстрэшкавым дахам, выконваючымі функцыю бабінцаў. Аб'ём будынка — 7400 кубаметраў. Падчас акупацыі ў будынку сінагогі размяшчаўся ваенны склад, так што яна захавалася аж да канца вайны. У 1944 годзе нямецкія сапёры паспрабавалі ўзарваць сінагогу, але надзейна сканструяваны будынак не развалiўся. Пасля вайны будынак без даху, спустошаны, не рамантаваны прыйшоў у заняпад. У 1971 г. тагачасныя ўлады Беластоцкага ваяводства вырашылі знесці руіны. Да зарослых астаткаў сінагогі гасцей «Беларускіх трыялогаў» прыводзіў Сакрат Яновіч. Кожны год пісьменнікам, перакладчыкам, спецыялістам па літаратуры з Польшчы, Беларусі і многіх іншых краін паказваў даваенныя, у 90 адсотках яўрэйскія, Крынкі, адначасова з сантыментам успамінаючы мясцовых беларусаў, большасць з якіх паўмірала або з'ехала.

## Вярнуць годнасць

Чацвер, 28 жніўня. Ранняе змяркание. Становіцца халадней. У руінах сінагогі ніякіх прыкмет кустоўя. Тыя, хто былі на «Трыялогу», а і мясцовыя жыхары, не пазнаюць гэтага месца: тут і там некалькіметровыя фрагменты сцен, а ў іншых месцах асобныя камяні ўбачылі святло набліжаючагася да канца лета. Спецыяльны аўтобус, наняты Беластоцкім цэнтрам культуры, арганізатарам выставы «Усход культуры», прывозіць наведвальнікаў з Беластока. Чытаюць тэкст Міраслава Балкі на раздадзенай ім улётцы: «Рэанімацыя, упарадкванне і ачышчэнне тэрыторыі Вялікай сінагогі з заранікаў і зелля, спалучанае з батанічнай інвентарызацыяй месца. Мерапрыемства звяртае ўвагу на гістарычны недагляд і неахайнасць. Гэта спроба рэанімацыі прасторы Вялікай сінагогі і апека над ёю. Акцыя накіраваная на аднаўленне годнасці месца рэлігійнага культу жыдоўскага насельніцтва Крынак, якое паклала падмурак мястэчку. Рэанімацыя атачэння Вялікай сінагогі, праведзеная дружынай — важны складнік гістарычнай адукацыі. Увядзенне крыніцы вады ажыўляе і паўторна акрэслівае Месца». Сярод руін, з кожнай хвілінай заходзячага сонца, штораз больш рух. Чутны англійская, беларуская і польская мовы. Пад'язджае пажарная машына. Пажарнікі выцягваюць помпу. Перад дамамі насупраць былой сінагогі мясцовыя жанчыны шэпчуцца: «А што — паліць будуць і тушыць?»

Маэстра Балка выцягвае невялікія кавалачкі паперы з распрацаваным сцэнарыем дзеянняў падвойных і патройных груп у плашчах з капюшонамі, у галёшах. У адной з іх старшыня Фонду «Віла Сакрата», фатограф Павал Грэсь і музыкант, фатограф Юрка Асеннік, у іншых моладзь з БАСу, яшчэ перажываючая нядаўна завершанае «Басовішча». Ёшчэ адна група: міністр культуры, мастацтвазнаўца Малгажата Амільяноўская, Анда Ротэнберг, былая дырэктарка варшаўскай галерэі «Захэнта», мастацтвазнаўца, куратарка, і Аліцыя Лышковіч, кінапрадзюсерка. Групы плаўна перадаюць сабе помпу, каб не парушыць бесперапыннасці патоку, што б'е як фантан. Праз некалькі хвілін міністр Амільяноўская сцягвае чабаткі і прамоклы плашч. Ганарыцца:

— Быць фрагментам творчай матэрыі ў руках такога мастака як Міраслаў Балка — гэта вялікі гонар. Я — гісторык сучаснага мастацтва, і здаралася са мной, што мастакі ўцягвалі мяне ў свае задумы, але ніколі не быў гэта мастак такога маштабу як Міраслаў Балка. Яго творчасць паказвае, што можна ў вельмі сціплы, памяркоўны спосаб трапляць да людзей з выразным, недвухсэнсоўным паведамленнем, прытым такім, які змяняе погляд на многія пытанні. Як можна закрануць нешта асаблівае. Тут узнавіў для лакальнай супольнасці памяць аб крынкаўскіх габрэях.

## Успаміны міністр

Зямлячка, як назваў Лявон Тарасэвіч міністр Амільяноўскую, гледзячы на руіны ў чырвоных чабатках і плашчы, згадвае «Ніве»:

— Для мяне гэты свет тут — гэта ў першую чаргу свет успамінаў дзяцінства майго бацькі. Ён нарадзіўся недалёка адсюль, але сёння гэтае месца на беларускім баку мяжы — у сяле Галынка. Ён быў ахрышчаны ў першыя дні сакавіка 1929 года ў каталіцкім парафіяльным касцёле ў Крынках. У дзяцінстве я была тут некалькі разоў, таму што мой тата хацеў паказаць мне свае сляды, якія памятаў у Крынках, Саколцы, Крушынянах. Калі я была маленькай, мы паехалі таксама дарогай на Галынку, дарогай, якая канчаецца ў Свіслачы, з адсутнічаючым на працягу многіх гадоў мостам, за якім распасціралася якраз Галынка, дзе ён жыў. Я вяртаюся сюды, да каранёў свайго бацькі. Мне гэтыя землі асацыююцца з неверагодкай сумессю культур, якія тут былі ад заўсёды, дзе людзі мусілі ўмець жыць разам, дзе яны сустракаліся з людзьмі самай рознай нацыянальнай, культурнай, рэлігійнай ідэнтычнасці, з іншымі культурнымі патрэбамі, звычаямі і традыцыямі, святкуючымі ў іншыя дні тыдня. Я ведаю, што гэта не была ідылія, але яны не пазабіваліся. Яны змаглі знайсці агульную мову для сваёй разнастайнасці. Гэта добрая мадэль для разумення. З жахам назіраю, што адбываецца ў апошнія гады ў Польшчы, дзе людзі адной культурнай ідэнтычнасці, з той жа мовай, той жа гісторыяй, тае ж самае нацыянальнай ідэнтычнасці, на самой справе выра-

працяг ☞11





# Палітычны покер

Пятага верасня ў сталіцы Беларусі быў падпісаны пратакол па выніках пасяджэння кантактнай групы па Украіне. Сама назва гэтага дакумента ўжо гаворыць за сябе. „Пратакол па выніках кансультацый Трохбаковай кантактнай групы адносна сумесных крокаў, скіраваных на імплементацыю Мірнага плана Прэзідэнта Украіны Пятра Парашэнкі і ініцыятыў Прэзідэнта Расіі Уладзіміра Пуціна".

Ну чаго добрага можна чакаць ад дакумента з такой назвай? Шэраг аналітыкаў ужо прадказваюць яму нядоўгае існаванне, калі такое будзе ўвогуле. Бо „план Парашэнкі" і „ініцыятывы Пуціна" — рэчы дыяметральна супрацьлеглыя. Па іх у прынцыпе дамовіцца немажліва. Кіраўнік Украіны марыць пра незалежную дзяржаву ў яе непарушных межах, уключаючы Крым, а таксама Луганскія, Данецкія ды іншыя ўкраінскія тэрыторыі. Ну а Пуцін Крым абвясціў тэрыторыяй Расійскай Федэрацыі, спрэчнымі землямі лічыць не тое што той Луганск з Данецкам, але нават і Адэсу, а ўкраінскую дзяржаўнасць разглядае як недарэчную памылку гісторыі, якую трэба тэрмінова выпраўляць. Зрэшты, чым ён паслядоўна, апантана ды паспяхова і займаецца апошнім часам.

Дык вось, па законах жанру, калі два такія супрацьлеглыя погляды ўсаджваюцца за адным сталом для падпісання агульнавыпрацаванай канцэпцыі, то гэта можа азначаць толькі адно — што як мінімум адзін з бакоў прадстаўляе падманшчык, шулер. Таксама здаўна вядома яшчэ з тэорыі і практыкі картачных гульняў у покер, бакару і нават у дурня, што сумленны гулец прайграе шулеру не ў час гульні, а калі толькі сядае з ім за адзін стол. Не хочаш каб цябе цынічна падманулі — не сядай з шулерам. А калі нейкі наіўны гулец усё ж спадзяецца сам падмануць шулера, то на гэта ёсць яшчэ адна народная мудрасць, якая сцвярджае, што подлага не перападліш, нахабнага не перанахабнічаеш, а ілжывага не пераілжэш. Пры ўмове, што ты сам не большы падлюка чым той.

Ну то так і сталася. Як спяваў некалі Уладзімір Высоцкі „не пройдзе і паўгода", а ў нашым выпадку не прайшло і паўсутак, як абодва бакі абвінавацілі адзін другога ў парушэнні падпісаных дамоўленасцей. Што і трэба было даказаць, бо шулер не толькі ніколі не вядзе чэснай гульні, але яшчэ заўсёды абвінавачвае ў шулерстве свайго апанента. І так таму і трэба, бо няма чаго сядаць за адзін стол з шулерам.

Але нават, каб ніхто не парушыў гэтага пагаднення, а ў будучым, уявім сабе такі цуд, абодва бакі пачнуць яго выконваць бездакорна, то што мы бачым у ім. Спыніць агонь і памяняцца палоннымі справа святая. Проста, такія дамоўленасці лепш выконваюцца, калі пра тое дамаўляюцца самыя ваякі, а не палітыкі. Ну а што далей? Далей мы бачым, што ў Мінску бакі дамовіліся па сутнасці пра асаблівы статус Луганшчыны ды Данеччыны. Дамовіліся правесці там дэцэнтралізацыю ўлады. І яшчэ пра выбары там у мясцовыя органы ўлады, нібыта нехта верыць у мажлівасць правядзення ў гэтых рэгіёнах справядлівых выбараў. І гэты дакумент, разам з былым украінскім кіраўніком, расійскім паслом і паслом АБСЕ падпісвалі і прадстаўнікі сепаратыстаў.

Ну дык менавіта гэтага патрабаваў Крэмль яшчэ да пачатку баявых дзеянняў! Узнікае лагічнае пытанне — навошта цяпер ён будзе мяняць нешта ў сваёй тактыцы і стратэгіі, калі яны прыносяць яму перамогу? Прычым на ўсіх франтах, і на палітычным таксама. Мяркуйце самі. Еўрапейцы, замацаваўшы патрабаванні, а значыць і перамогу Масквы дакументальна, пачалі ўжо разважаць пра замарожванне працэсу пашырэння санкцый супраць Расіі. І ніхто нават не заікаецца, што яшчэ некалькі месяцаў назад такія рэчы як дэцэнтралізацыя ўкраінскай улады, або ўдзел у перамовах сепаратыстаў, лічыліся недапушчальнымі.

Ну што ж, зараз, хаця б дзеля смеху, застаецца толькі перапісаць тое, што сёння лічыцца недапушчальным. Прыкладам, пагрозы цэласнасці тэрыторый некаторых усходніх членаў НАТА, каб заўтра гэтае пытанне зноў убачыць у чарговых дамоўленасцях як другасную па значэнню тэму новых палітычных перагавораў.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Ці мая сястра выратуе свет?



Не такое мела быць дваццаць першае стагоддзе! Калі Еўропа, прыгнечаная дзвюма жорсткімі войнамі, пачала будаваць новы парадак, заснаваны на мірным супрацоўніцтве паміж народамі, можна было спадзявацца сытай, адносна мірнай будучыні. Амаль кожны еўрапеец даў спакусіцца мляваму бачанню трывалага міру і ідучага за ім развіцця цывілізацыі. Еўропа явілася ўсім быццам апора бяспекі і росквіту. І вось раптам на яе ўсходніх межах вырас пуцінскі нарыў, перапоўнены ваеннай рыторыкай і агрэсіўнай прагнасцю. Ён выліўся ўжо на частку Украіны — ці пераліецца на Польшчу і іншыя краіны Захаду? Раптам да градмадскасці пачалі прасочвацца цьмяна фармуляваныя пагрозы кінуць атамную бомбу на Варшаву. Раптам Еўропа пачала ўзбройвацца. Дэпутат Дзяржаўнай думы Расіі Жырыноўскі адкрыта кажа пра пачатак трэцяй сусветнай вайны. Гэта праўда, што гэты чалавек псіхічна неўраўнаважаны, але калі расійскія выбаршчыкі даюць яму свае галасы, і ён на працягу многіх гадоў з'яўляецца членам вышэйшых улад, гэта падымае пытанне аб тым, ці не патрэбнае ім тэрмінова псіхіятрычнае назіранне. Ці, мабыць, яны маюць рацыю? Двaццатае стагоддзе было названа шалёным. Якое імя будзе мець наступнае? Ніхто не згадвае пра канец свету, найбольш інтэнсіўна чаканы на мяжы стагоддзяў. Сёння мы чуем пра канец нейкай эпохі; эпохі вытанчанай культуры і цывілізацыі; эпохі надзеі і веры ў мудрасць чалавека; эпохі стабільнасці і свету. Ці наступную па ёй эпоху назавем часам варвараў?

Нікога не здзіўляе расійскі экспансіянізм. Гэта глабальны рух. Гэта ў роўнай ступені адносіцца да магутна ўзбагачаных Кітая і Злучаных Штатаў, асабліва перыяду прэзідэнцтва Буша-малодшага — як і сусветнага капіталу, назапашанага на прыватных рахунках толькі некалькіх адсоткаў людзей. Сярэдні грамадзянін свету, нягледзячы на тое, гэта будзе практычны амерыканец або прагматычны немец, цярплівы беларус ці працавіты кітаец — карацей кажучы, 98 адсоткаў чалавечай папуляцыі — нават не ў змозе ўявіць сабе нічым неабгрунтаванае багацце невялікай купкі людзей. У гэтых адносінах мала што змянілася з часоў сярэднявечнага феадалізму. Меншасць выкарыстоўвае плады працы большасці. Чалавецтва ніколі не навучыцца талкова размяркоўваць дабро ім выраблена. Некаторыя кідаюць харчы ў смецце, іншыя грабуцца ў смецці па пахі, каб дажыць да наступнага дня. Павялічваецца разрыў паміж багатымі і беднымі; паміж перанаселенай Афрыкай і шырока разуметым Усходам і абязлюджваючымся Захадам. Усё гэта забяспечвае выдатнае нерасцілішча для ўсіх відаў фундаменталізму, як рэлігійных і нацыянальных антаганізмаў, так і нацыянал-ксенафобскіх тэндэнцый. Ці прыгожыя ідэі салідарнай і эгалітарнай Еўропы чэрці пабралі? Ці свет сапраўды стаў на мяжы генацыду? Я думаю, што не. І ў мяне ёсць на гэта асабістая тэорыя.

На самой справе, чалавек — толькі вадкасць злёгку забруджаная мінеральнымі асадкамі. Мы ведаем са школы, што чалавечы арганізм складаецца ў 85% з вады, таму павінен быць падпарадкаваны закону спалучаных сасудаў. Паводле яго, вада з-за фізічных уласцівасцей і ўплыву зямной гравітацыі мае эгалітарную тэндэнцыю да выраўноўвання свайго ўзроўню. Такім чынам, незалежна ад таго, колькі вады наліць у сасуд спалучаны з іншымі, узровень у абодвух сасудах неўзабаве зраўнуецца. Гэты закон таксама распаўсюджваецца на людзей, хоць у гэтым выпадку працэс выраўноўвання даволі млявы. Магчыма, за кошт мінеральных прымешак, як згадвалася вышэй. Тым не менш, ён паслядоўны. Расія, напрыклад, з'яўляецца найбуйнейшай па паверхні краінай на зямным шары. На жаль, рэзка абезлюдзелай, як гэта адбываецца і ў іншых краінах Еўропы. Не бярыце ў галаву, Расію памаленьку зальюць пладавітыя кітайцы, а Еўропу — афрыканцы. Сучасны свет уяўляе сабой сістэму шчыльна злучаных сасудаў. Часы, калі Еўропа спалучана была з Амерыкай марскім транспартам або адным падводным тэлефонным кабелем, даўно прайшлі. Мая сястра супрацоўнічае з кітайцамі, з дапамогай адной пстрычкі на камп'ютары дае працу некальком сотням кітайцаў. Калі гэтага не зробіць, гэтыя сотні беспрацоўных і галодных людзей хутка знойдуць свой шлях у Расію. Або Польшчу. На самой справе, нічога дрэннага не адбываецца. Войны, фундаменталізмы, нацыяналізмы — гэта проста цёк выраўноўваючайся ў спалучаных сасудах вады. Або лепш: чалавечай вадкасці.

**Міраслаў ГРЫКА**



Вачыма еўрапейца

# Мінскія візіты міністра

Перафразуючы польскую прымаўку, я нядаўна ўсклікнуў: «Калі трывога, то... у Беларусь!» Працёр я вочы ад здзіўлення, калі пачуў, што польскі міністр сельскай гаспадаркі Марэк Савіцкі нядаўна двойчы (14 жніўня і 1 верасня) падаўся з візітам у Мінск. Пакуль, на ўзроўні міністраў, такія візіты былі немагчымыя, за выключэннем кіраўнікоў замежных спраў і культуры. І тут раптам маеш! Акрамя таго, міністр Савіцкі даў інтэрв'ю рэжымнаму тэлебачанню АНТ, цытаванаму дзяржаўным агенцтвам БелТА і прадбачыў (інфармую за Польскім агенцтвам друку), што Польшча разглядае магчымасць стварэння ў Беларусі сумесных прадпрыемстваў перапрацоўкі польскіх харчовых сыравін. Беларускае агенцтва цытуе міністра: «Мы актыўна шукаем новыя рынкі збыту, гаворка ідзе аб Злучаных Штатах і Канадзе. Вядома, мы таксама зацікаўлены ў больш цесным супрацоўніцтве з Беларуссю. Гэта ж нашы суседзі. Беларускі бок паставіў нам, аднак, пэўныя ўмовы — каб уваходзіць у Беларусь не са сваім таварам, таму што ніхто не будзе далей яго прадаваць, але са сваімі інвестыцыямі і тэхналогіямі».

Дадаў ён, што калі ў Беларусі будзе арганізавана перапрацоўка польскай сельскагаспадарчай прадукцыі, то Беларусь будзе распаўсюджваць яе на сваім рынку, і сама павялічыць продаж уласнай прадукцыі ў Расію: «Будзем разглядаць пытанне аб стварэнні сумесных прадпрыемстваў на ўсіх узроўнях. Адбудуца сустрэчы на тэму інвестыцый». Як сказаў, Польшча пачала абмяркоўваць планы з прадстаўнікамі бізнесу, каб атрымаць уяўленне аб умовах, у якіх яны гатовы ўкладаць свае грошы ў будаўніцтва інфраструктуры ў Беларусі. Заўважыў: «Я спадзяюся, што канкрэтныя рашэнні і кантракты з'явяцца ўжо ў найбліжэйшай будучыні».

Пасля ўвядзення расійскага эмбарга на сельскагаспадарчыя і харчовыя прадукты ад ЕС, віцэ-прэм'ер Беларусі Міхаіл Русы заявіў, што яго краіна гатова павялічыць у гэтым годзе пастаўкі прадуктаў харчавання ў Расію на 15-50 працэнтаў. Былы кіраўнік беларускага Нацбанка Станіслаў Багданкевіч, у сваю чаргу, не выключыў нават, што ў цяперашняй сітуацыі ўся беларуская сельскагаспадарчая прадукцыя будзе трапляць у Расію, а сама Беларусь пяройдзе на заходнія тавары.

У пачатку жніўня Расія абвясціла, што яна накладае забарону на імпарт садавіны, гароднiны, мяса, птушкі, рыбы, малака і малочных прадуктаў з ЗША, Еўрапейскага Саюза, Аўстраліі, Канады і Нарвегіі. Эмбарга дзейнiчае на працягу аднаго года. Гэта адказ Расіі на санкцыі, накладзеныя на яе з боку ЗША і ЕС. Раней, 1 жніўня, Расія ўвяла эмбарга на некаторую садавіну і гародніну з Польшчы. Мінск не далучыўся да расійскага эмбарга.

Беларусь з'яўляецца адным з найважнейшых эканамічных партнёраў Польшчы, трэцім пасля Расіі і Украіны сярод краін СНД. Па дадзеных Міністэрства эканомікі, удзел Беларусі ў экспарце польскіх тавараў у 2012 годзе склаў 1,6 мільярда долараў. У 2013 годзе наш тавараабарот павялічыўся на 7 адсоткаў да сумы больш за 3,2 млрд. долараў.

Тым часам 4 верасня ў Беларусь паехала група польскіх экспарцёраў і інвестараў. З гэтай нагоды міністр Савіцкі падкрэсліў, што беларусы паабяцалі, што маглі б імпартаваць каля 200 тысяч тон малака ў месяц. Савіцкі заявіў у тэлеканале TVP1, што расійскае эмбарга з'яўляецца вельмі балючым для польскіх фермераў, але не разбуральным — ахоплівае 6,2 працэнта ўсяго польскага экспарту, што адпавядае 1,3 млрд. ад экспарту на агульную суму 20 млрд. еўра: «Расія не з'яўляецца асноўным рынкам нашага продажу, але ўсё ж з пункту гледжання пэўных прадуктаў, такіх як гародніна сямейства капусных, памідоры, яблыкі — вельмі важным. Беларусы абавязаліся гарантаваць, што гатовыя купіць у месяц ад нас да двухсот тысяч тон малака — ці свежага малака, ці згушчанага, ці сухога, значыць, у рознай яго форме — для таго, каб перарабіць і прадаць яго далей, таксама на рынак Расіі».

Міністр падкрэсліў, што беларусы не хочуць парушаць забароны і ўнутранай дамовы ў рамках мытнага саюза з Расіяй і Казахстанам. Яны хочуць купляць у Польшчы прадукцыю, перарабляць і прадаваць у Расію, «каб не было папрокаў, што ўзаемна падманваюцца». Дадаў, што для Польшчы Беларусь з'яўляецца «партнёрам настолькі выгадным, што блізкім». Мабыць, нявыгадна было яму дадаць, што там, дзе прымаецца пад увагу камерцыйны інтарэс, грошы, губляюцца акты салідарнасці ў абарону дэмакратыі ў палітычным вымярэнні, якім было непадтрымліванне прамых кантактаў на ўзроўні міністраў (і вышэй) у рамках супрацiву па прычыне парушання беларускім рэжымам грамадзянскіх правоў і, у больш шырокім сэнсе, дэмакратычных прынцыпаў.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

**Арлянская гміна — адзіная ў Польшчы ўстанавіла дошкі і ўказальнікі з назвамі населеных пунктаў на польскай і беларускай мовах. У Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы імя Арлянскай зямлі адбываецца адукацыя па-беларуску. У гэтай гміне людзі, якім блізкая беларуская мова і беларуская культура, арганізуюць беларускія мерапрыемствы. Фэст беларускай культуры «Арлянскія сустрэчы», які ладзяць войт Пётр Сэльвесюк і Гмінны асяродак культуры ў Орлі, стаў пастаянным гмінным мерапрыемствам і здабыў вялікае прызнанне як сярод мясцовага насельніцтва, так і ў прыезджых.**



Ансамбль народнай песні «Бяседа» з Мінска

# Фэст беларускай культуры ў Орлі


Падчас фэсту адбылося падвядзенне вынікаў VIII Гміннага конкурсу на самую прыгожую сядзібу. Злева стаяць пераможцы Галіна і Славамір Ваўтанюкі


Беларускі калектыў «Арляне» праз два гады будзе адзначаць 70-гадовы юбілей

Публіцы, дзе большую частку састаўляюць людзі сталага і пажылога ўзросту, падабаюцца нашыя народныя і эстрадныя беларускія песні і дадатковыя атракцыёны. Дзеткі вельмі ахвотна гуляюць у гарадку гульняў, адкуль музыку слухаюць таксама іх бацькі, а моладзь прыбывае на «Арлянскія сустрэчы», каб пры песнях паразмаўляць з сябрамі перад пачаткам школьнага года, паколькі мерапрыемства традыцыйна ладзіцца напрыканцы жніўня.

У гэтым годзе XIII Беларускі фэст «Арлянскія сустрэчы» адбыўся 30 жніўня, у суботу, што ў параўнанні з мінулымі гадамі, калі імпрэза ладзілася ў нядзелі, мела свае добрыя і адмоўныя бакі. На наступны дзень, у нядзелю, можна было адпачыць пасля суботніх гульняў, але паколькі субота лічыцца будным днём, частка сялян працавала ў полі. Едучы ў Орлю на фэст, бачыў я людзей працуючых на полі, апярэджваў трактары. Магчыма, земляробы пазней прыбылі на фэст.

На плошчы, побач яўрэйскай сінагогі ў Орлі, сабралася многа людзей і нават моцны, але кароткі дождж у пачатку мерапрыемства не спалохаў прыбылых. На фэст у Орлю прыбылі святары, дыпламаты Рэспублікі Беларусь, парламентарыі РП, падляшскі ваявода, самаўрадаўцы, кіраўнікі Бельскага староства і суседніх гмін, каменданты паліцыі, пагранічнай і пажарнай аховы ды надляснічы Бельскага надлясніцтва, людзі беларускай культуры і адукацыі. Запрашанне шматлікіх гасцей на беларускі фэст стала ў Орлі традыцыяй.

— Наша гміна беларуская і таму ў галоўным ладзяцца ў нас беларускія мерапрыемствы, хаця мы адкрытыя таксама на іншыя культуры. Сёння ладзім беларускі народны фэст і таму прэзентуецца ў галоўным народная і эстрадная беларуская музыка. Прапануем таксама іншыя атракцыёны, прэзентуем народнае рукадзелле, фотавыставу, якая спалучае мінулае з цяперашнім, гульні для дзетак, падводзім вынікі конкурсу на найпрыгажэйшую сядзібу ў нашай гміне, — сказаў войт Арлянскай гміны Пётр Сэльвесюк.

У пачатку фэсту з доўгім канцэртам пад кіраўніцтвам Леаніда Захлеўнага выступіў Ансамбль народнай песні «Бяседа» з Мінска, які захапіў публіку беларускімі эстраднымі песнямі.

— Калектыў «Бяседа» выступае на вельмі высокім мастацкім узроўні з эстраднай беларускай музыкай, ставіць націск на шоў і гэта вельмі падабаецца публіцы, — заявіў Марыюш Харужы, музычны кіраўнік калектыву «Гай» з Беластока, які пазней прэзентаваўся на арлянскім фэсце. — У Орлі беларускія фэсты заўсёды арганізуюцца на высокім узроўні і з удзелам разнародных калектываў.

Перад сваёй публікай удала выступілі калектывы Арлянскай гміны: «Арляне», «Вэрвачкі», «Тры пальцы» і «Фэрмата» з Орлі ды «Малінкі» з Маліннік. «Арляне» — славуты беларускі калектыў, які дзейнічае на Беласточчыне, мабыць, найдаўжэй, бо ажно 68 гадоў. Падчас фэсту «Арляне» запрэзенталіся з апрацаванымі беларускімі народнымі песнямі, якія развучваюць пад наглядам свайго музычнага кіраўніка Міколы Фадзіна з Гродна.

— Сёння акампанемент для нашага калектыву састаўляюць са мной музыканты з Беларусі. Калі будзем адзначаць 70-гадовы юбілей, можа запросім яшчэ больш музыкантаў, — заявіў Мікола Фадзін.

Віталь Соха з «Арлян» пахваліў калектыў «Бяседа» з Беларусі і заўважыў, што «Бяседа» і «Арляне» выконваюць некаторыя такія самыя творы.

Усе іншыя музычныя калектывы Арлянскай гміны былі заснаваны ўжо пасля палітычных і гаспадарчых перамен у нашай краіне. Беларускі калектыў «Малінкі» з Маліннік выступае перад публікай ужо 16 гадоў і прэзентуе неапрацаваны мясцовы фальклор.

— Нядаўна, выступаючы з нашым неапрацаваным фальклорам у Казімежы-Дольным занялі мы трэцяе месца. Хутка ў Малінніках будзем ладзіць майстар-класы для моладзі з Польшчы, — сказалі Вера Нічыпарук і Валянціна Троц з «Малінак».

«Вэрвачкі» і гурт «Фэрмата» з Орлі гэта яшчэ малодшыя калектывы, а гурт «Тры пальцы» ўзнік зусім нядаўна. Прэзентуюць яны апрацаваныя народныя песні і эстрадны рэпертуар. Выступы калектываў Арлянскай гміны асабліва спадабаліся мясцовай публіцы, сярод якой былі сямейнікі спевакоў, іх сябры і знаёмыя.

У час мерапрыемства можна было паглядзець фотавыставу «Вяртанне ў мінулае», якая была размешчана на агароджы пляцоўкі гульняў для дзетак. Праект Фатаграфічна-фільмавыя майстар-класы «Вяртанне ў мінулае» быў арганізаваны мясцовай пажарнай камандай, з дапамогай Гміннага асяродка культуры і Комплексу школ. Моладзь падчас заняткаў павышала свае веды і здабывала новыя ўмеласці па фатаграфаванні і фільмаванні.

— Пасля вучні прыносілі свае старыя сямейныя здымкі, апісвалі іх і перараблялі так, што на іх паяўляліся таксама выявы асоб, якія іх апрацоўвалі. Гэтыя здымкі сёння прэзентуюцца на выставе, — заявіў Мірaслаў Бало, камендант Добраахвотнай пажарнай аховы ў Арлянскай гміне і заадно радны Бельскага павета.

— Майстар-класы былі добрым шанцам для моладзі, каб разгарнуць іх зацікаўленні ў галіне фатаграфіі і фільма, павысіць умеласці фатаграфавання і здабыць веды аб мясцовай гісторыі. Адбываліся яны пад наглядам прафесіяналаў Кацпра Паўлюка, Катажыны Заблоцкай, Юрыя Вуйціка і Дар'юша Гарадэцкага, — гаварыла Анна Несцярук, дырэктар Гміннага асяродка культуры ў Орлі.

У рамках праекта «Вяртанне ў мінулае» ў ліпені і жніўні моладзь пад наглядам вядомага гайнаўскага фатографа Юрыя Вуйціка і арлянскага настаўніка Дар'юша Гарадэцкага рабіла таксама здымкі драўлянай архітэктуры ў гміне. Дырэктар ГАК Анна Несцярук удакладніла, што выстава лепшых здымкаў будзе прэзентавацца ў наступным годзе.

Беларускія калектывы з Беластока, Бельска-Падляшскага, Нарвы і Чыжоў таксама выклікалі зацікаўленне публікі. Выступленні гуртоў «Ас», «Васілёчкі», «Арт-Пронар» і «Чыжавяне» ўзнагароджваліся гарачымі апладысментамі, што сведчыла аб станоўчай ацэнцы калектываў гледачамі.

Падчас фэсту адбылося падвядзенне вынікаў VIII Гміннага конкурсу на самую прыгожую сядзібу ў гміне. Войт Пётр Сэльвесюк і бельскі стараста Славамір Снарскі ўручылі пераможцам дыпломы, грашовыя ўзнагароды і саджанцы аздобнай расліннасці. Да конкурсу прыступіла 9 уласнікаў гаспадарак, а першае месца занялі Галіна і Славамір Ваўтанюкі за вельмі прыгожа аздоблены панадворак у вёсцы Дыдулі.

— На нашым панадворку многа дрэў, і аздобнай расліннасці, у тым ліку кветак. Мы самі вырошчваем саджанцы і пасля абсаджваем імі панадворак. Многа вольнага часу адводзім сваёй сядзібе, а пасля любуемся зробленым. Можна сказаць, што гэта нашае хобі, — сказалі Галіна і Славамір Ваўтанюкі.

Другое месца заняла Марта Баркоўская з Рыгораўцаў, трэцяе месца камісія прызначыла Анне Пчэлы з Кашалёў, а вылучэнне атрымалі Галіна і Андрэй Сахарэвічы са Шчытоў-Навадвораў.

— Панадворкі, якія мы наведалі, былі вельмі прыгожа і арыгінальна абсталяваныя. Можна сказаць, што ўсе сядзібы, якія мы ацэньвалі, заслужылі першага месца і таму складана было вылучыць канкрэтных пераможцаў, — лічыць Ева Дзмітрук, старшыня конкурснай камісіі. — Удзельнікам конкурсу дзякуем за актыўнасць, а астатніх заахвочваем прыступаць да конкурсу ў наступных гадах.

Рукадзелле запрэзенталі Зоя Майстровіч з Рудутаў, якая прывезла вырабы з саломы і Хрысцінія Грыгарук з Орлі, якая паказала аздобную пасуду з папяровай ракіты. Іншыя рамеснікі прадавалі збанкі, абрусы, сурвэткі. Можна было таксама купіць сувеніры, мёд, паглядзець феерверкі. Публічнай бібліятэкай у Орлі быў наладжаны кніжны кірмаш. Пасля выступаў калектываў ахвотныя танцавалі пад музыку гурта «БДБ» з Беластока.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

## Міхалоўскі міф

— Мне трэба на блокі, што на Свентаянскай, — зачапляю жанчыну на адной з вуліц Міхалова.

— Гэта ў маім напрамку, пойдзем разам, — ветліва заахвочвае напатканая кабета.

Знаходжуся ў кампаніі жанчыны, якая, мабыць, палавіну жыцця мае ўжо за сабою. Адзетая ў цёмную вопратку спартыўнага тыпу, цяжкі крок, невясёлы позірк. Невядома як далёка будзем так разам, плячо ў плячо, маршыраваць. Прабую пачаць размову.

— Даволі вялікае вашае Міхалова.

— Так, перад намі шмат дарогі. Учора праходзілі тудою дзве маладыя дзяўчыны з блакнотамі. Штосьці запісвалі. Мо што прадавалі, ці лістоўкі па хатах разносілі. Таксама ў гэтых вуліцах не маглі да канца разабрацца.Калі не тутэйшыя, дык адкуль ім ведаць.





— А колькі тут жыхароў?

— Не ведаю, каб вас не ашукаць. „Бядронку" паставілі. Рынкавыя патрабаванні дазваляюць яе пабудаваць у мясцовасцях, у якіх пражывае не менш чым 3000 насельніцтва. Мабыць, іх тут столькі ж.

— Напэўна добра вам тут жывецца, прынамсі ўсе так думаюць.

— Каму добра, а каму кепска. Добра, калі ёсць праца. Яшчэ працую, дамова падпісана да канца месяца. А што далей будзе? Калі б ты быў упэўнены, што заўтра прабуджаешся і ідзеш на працу. Цяпер я апякунка ў Асяродку сацыяльнай дапамогі. Атрымліваю цэлых 1200 злотых — смех адзін. Рахункі пааплачваць, на бензін кожны месяц 300 злотых аддаць. Пазыка 200 злотых у месяц. З таго ўтрымаць дзіця, мужыка. Немагчыма. Дзе тут харчаванне ці што-небудзь іншае. Адна дарога на працу колькі каштуе.

— Вам не вяртаюць?

— Гэта калісь на ўсё гатовае ішлі. Цяпер рабі як робіш, і сам сабе давай раду. Мае падапечныя ў Бандарах. Маю вадзіцельскія правы, бяру аўтамабіль ад брата, запраўляю на 300 злотых у месяц. Аўтобусам не аплачваецца, білет у адзін бок 8 злотых. І наракаюць, што калісь кепска было. Тады ўсё мелі, а цяпер?

На Свентаянскай ціха. Некалькі блокаў у пэгеэраўскім стылі васьмідзясятых гадоў, пасярод іх пясочніца. Адзін хлопец з сіндромам Дауна падрадкуе навакольныя сметнікі.

— У тым пэгеэры працаваў мой бацька. Добра ім тады жылося. Штосьці камусьці не спадабалася і ўсё развалілі. Цяпер бацькі ўладкаваліся ва ўласнай хаце з панадворкам, а я тут засталася. Найважнейшае, што я тут на сваім.

Гаварылі што вайною пахмяралі. Цяпер вайны няма і таксама пахмяраюць. А што тут нам засталося, толькі памерці.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**

# Беларускае «Іншае вымярэнне» (2)

— Гэта вельмі аптымістычна, што на Беласточчыне ёсць тыя, хто займаецца беларушчынай, развіццём беларускай мовы і яе дыялектамі. Адна сапраўдная культура да другой дадаецца толькі са знакам плюс. Гэтаксама ёсць з беларускай культурай на Беласточчыне і беларускай у нашай краіне, — сказаў «Ніве» Станіслаў Шушкевіч, у 1991-1994 гадах старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі (у той час галава дзяржавы) пасля прапрэм'еры фільма Міколы Ваўранюка «Гавораць беларусы Падляшша». Гэты саракахвілінны дакумент быў паказаны ў Беластоку ў рамках сёлетняга фестывалю «Усход культуры — Іншае вымярэнне». Таксама вядучыя кінадакументалісты з Беларусі Вольга Дашук і Віктар Аслюк з нагоды гэтага чатырохдзённага мерапрыемства паказалі свае кранаючыя кароткаметражныя дакументальныя карціны.



Міхола Ваўранюк і Вольга Дашук

Падчас паказу фільма Міколы Ваўранюка зала ў Галерэі Сляндзінскіх трашчала па швах. Галоўнымі героямі фільма з'яўляюцца жыхары нашага рэгіёна, якія гавораць на розных дыялектах беларускай мовы:

— Гэта фільм у першую чаргу аб мове, на якой гавораць беларусы Беласточчыны. І гэта не адна мова, — аб'явіў перад паказам фільма рэжысёр, які супрацоўнічае з тэлеканаламі Беласток і Белсат ды з Радыё Рацыя.

— Фільм заснаваны на слове не мусіць быць асуджаны на правал, — дадаў ён з надзеяй, што потым пацвердзілі гарачыя апладысменты.

На яго думку, асіміляцыйныя і дэмаграфічныя працэсы непазбежна прывядуць да знікнення дыялектаў, таму існуе патрэба ў іх рэгістрацыі. Ідэя фільма ўзнікла ў ходзе праекта «Падляшскія хронікі», над якім Згуртаванне АБ-БА працавала з 2009 года. Удзельнікі праекта (беластоцкая моладзь, якая вывучае беларускую мову) збіралі сямейныя гісторыі, фатаграфіі, дакументы, памятныя рэчы, абрадавыя песні. Вынікам іх працы сталі кніга і спектакль «Ой, даўно, даўно... Беларускія гісторыі з Падляшша».

У фільме маладыя актрысы наведваюць некаторых герояў «Падляшскіх хронік». Маладыя людзі размаўляюць са сваімі бабулямі і дзядулямі ў іхніх вёсках пра жыццё, гісторыю, пра тое, што для іх было і надалей з'яўляецца важным. Фільм напоўнены цяплом і дабрынёй, што б'е з яго герояў: маладых і пажылых. Гэта цікава, але якраз вельмі цёпла гучаць некаторыя дыялогі паміж рэжысёрам-бацькам (урадженцам Тыневіч-Вялікіх) і яго дачкой Нінай аб яе дзядулю.

Ніна: — Я памятаю, дзедка хадзіў з палачкай...

Мікола: — Ён казаў, што гэта быў яго пульт дыстанцыйнага кіравання.

Героі фільма расказваюць заадно аб спектаклі, як і аб уласных гісторыях. Выказваюцца таксама жыхары вёсак, у якіх спектакль быў паказваны, напрыклад, Машчоны-Панскай, дзе ён ставіўся па асабістым запрашэнні Рыгора Баены, як і тых, якія ў прадстаўленні не згадваюцца, напрыклад, Сынкаўцаў, дзе падчас спектакля мясцовая святліца трашчала па швах. Выступаюць таксама героі, якія ўжо адышлі. Аўтарам здымкаў фільма з'яўляецца Раман Васілюк. Арганізатар праекцыі і прадзюсер кінакарціны: Згуртаванне дзеля дзяцей і моладзі вывучаючых беларускую мову АБ-БА.

## Дакументы з Беларусі

А ў кіназале Беластоцкага цэнтра культуры свае фільмы паказалі двое кінадакументалістаў з Беларусі. Чатыры фільмы Вольгі Дашук, таксама рэпарцёркі і кінакрытыка, прадстаўлены пад супольным загалоўкам «Свой кавалачак неба». «Не адзін», «3 км да нябёсаў», «Кінарэжысёр аматар», «Старадаўнія танцы» гэта карціны, якія паказваюць беларусаў — людзей, якія рознымі спосабамі змагаюцца за выжыванне, са сваёй немаччу, адзінотай і адчужэннем. Здаецца, што яны непатрэбныя нікому. Хоць, здавалася б, у безнадзейных абставінах і навакольнай рэчаіснасці знаходзяць спосабы хоць частковага здзяйснення, рэалізацыі мар, хаця б нават кароткатрывалых. Фільм «Кінарэжысёр аматар», напрыклад, гэта гісторыя пра найстарэйшага аматарскага беларускага рэжысёра-аператара Анатоля Шнэйдэра, без якога не можа адбыцца ані адна мясцовая падзея. Пасля паказу, рэжысёрка распавяла прысутным:

— Спадар Анатоль пяцьдзясят гадоў здымае людзей. Ён самотны. Для яго сустрэчы з героямі кінастужак з'яўляюцца псіхатэрапіяй.

Яна сказала, не хаваючы смеху:

— Пры нагодзе я паказала, якой няўдзячнай справай бывае праца дакументаліста.

У сваю чаргу пра Сяргея Выскварку, які меў у Мінску школу беларускіх традыцыйных танцаў для ўсіх пакаленняў, расказвае яе фільм «Старадаўнія танцы». Школа ўладамі Мінска была зачынена, кажуць, у сувязі з непрыбытковасцю. Рэжысёрка аб сваім героі сказала:

— Ён хацеў, каб традыцыйныя танцы танцавала ўся Беларусь і шмат зрабіў для гэтага.

Аб рабоце са сваімі героямі сказала:

— У мяне ёсць асаблівыя адносіны з імі. Перш чым я пачну здымкі, неаднаразова сустракаюся з імі, размаўляю. Тады застаюцца са мною і дапамагаюць мне жыць.

Вольга Дашук прызналася, што ў цяперашні час рыхтуецца да фільма пра адукаваную, 22-гадовую беларуску, якая хоча стаць мадэллю. Яна калека:

— У нашым беларускім грамадстве няма месца для мар такіх людзей. Дзяўчына зрабіла некалькі фатаграфій у купальніку. У яе прыгожы твар, але людзі ў нас не ў стане змірыцца з тым, што інваліда хоча быць мадэллю.

Пра свае фільмы расказвала:

— Здымаю рэдкіх людзей, якіх, напрыклад, у вёсцы ніхто не разумее. Яны павінны мець штосьці ў галаве, але і павінны жадаць, каб іх здымалі.

Фільмы Віктара Аслюка, надзвычай старанна прадуманы і ўдакладнены ў кожным кадры, можна было ўбачыць пад лозунгам: «Беларусь у раўндзе». Рэжысёр і заадно сцэнарыст — лаўрэат больш за трыццаці ўзнагарод на еўрапейскіх кінафестывалях, член Еўрапейскай кінаакадэміі. У размове з «Нівай» ён сказаў:

— Мае героі самыя розныя. Я быў рэжысёрам дзесяткаў фільмаў. Іх героямі былі і старэчы, і дзеці, і лекары, і людзі іншых прафесій, і салдаты, людзі розных нацыянальнасцей. Шукаю персанажа, у якога свая гісторыя.

Мы спыталіся ў яго пры нагодзе ці можна казаць пра феномен: беларускае дакументальнае кіно, школу беларускага дакумента:

— Калі ёсць людзі ў Беларусі, якія робяць дакументальныя фільмы, можна казаць пра беларускае дакументальнае кіно. Ці ёсць дакументальнае кіно як мастацтва, гэта іншае пытанне, больш складанае. Яшчэ іншая праблема — беларуская школа дакументальнага кіно ў Беларусі. Кіно гэта калектыўны прадукт, але ствараюць яго ў першую чаргу рэжысёрскія індывідуальнасці. Калі такіх няма, то няма кіно. Адносна крытычна ацэньваю сітуацыю, калі гаворка пра рэжысёраў у Беларусі. Дома, у Беларусі, іх крытыкую, але за мяжой неяк не хачу. Асноўная праблема гэта час, у якім цяпер прыходзіцца працаваць беларускім рэжысёрам і месца, дзе ім прыходзіцца ствараць. Беларусь ніколі такім шчаслівым месцам не была, а і час здаўна неспрыяльны. Аднак беларускае кіно існуе ўжо 90 гадоў, і ёсць таму, што ў розныя перыяды былі рэжысёрскія індывідуальнасці і выдатныя фільмы, асабліва ў 1960-я і 1980-я гады. У гэты перыяд пачало з'яўляцца сапраўднае беларускае кіно. Прыйшлі 1990-я гады і беларуская школа кіно не ўзнікла. Мы засталіся часткай таго расійскага кіно так, як і ў гады яго росквіту ў 1920-1930-х гадах мінулага стагоддзя. Гэтая інерцыя затухае.

Два з яго фільмаў (выбар быў даволі выпадковым і залежаў ад тэрмінаў, устаноўленых арганізатарамі), створаныя дванаццаць гадоў таму, адзін два гады таму, а адзін ігравы фільм «Рускі», паводле апавядання Максіма Гарэцкага, рэжысёр завяршыў у гэтым годзе.

— Я баюся, што гэты фільм не для міжнароднай аўдыторыі, — хваляваўся перад паказам.

Але гісторыя пра беларускага салдата царскай арміі, які страляў у спіну украпрацяг

працяг ☞10



„Цаглінкі”

# Фэст на развітанне з летам

У Старым Ляўкове (Гайнаўскі павет) беларускія фэсты традыцыйна адбываюцца ў самым канцы жніўня. Пару гадоў таму ў яго арганізацыю ўключалася кіраўніцтва мясцовай керамічнай фабрыкі і ён быў больш багаты, з рознымі конкурсамі, між іншым, літаратурным — на верш, песню або вершаваную рэкламу ляўкоўскай керамічнай фабрыкі, лепкі з гліны і на найлепшага вудзільшчыка. Адбываліся спартыўныя спаборніцтвы ў розных відах спорту. Можна было агледзець адмысловыя выстаўкі ляўкоўскіх керамічных вырабаў.

Я добра памятаю фэст спалучаны са святам ляўкоўскіх керамікаў у 2008 годзе. Вёў яго Марк Скамароўскі, які таксама вельмі прыгожа спяваў сола польскія і беларускія песні. Мясцовая фабрыка святкавала сваё саракагоддзе. Я напісаў тады верш на беларускай мове „У Ляўкове свята”, Мікалай Мяжэнны напісаў да яго ноты і атрымалася песня. Спявалі яе „Цаглінкі”. Надрукавалі яе ў „Ніве” № 37 у 2008 годзе разам з маім допісам пра фэст. Прыгадаю, што ў 2009 годзе на фэсце выступіла сямнаццаць калектываў, у 2010 годзе на фэст запрасілі дзесяць калектываў. Што ж, прайшлі гады. Цяпер народны фэст ладзяць выключна войт Нараўчанскай гміны і Гмінны асяродак культуры ў Нараўцы. Інакш яго ўвогуле не было б.

Сёлета ў апошнюю суботу жніўня на беларускі фэст у Старое Ляўкова прыехалі калектывы „Twister” і „Heven”, кабарэ „Podlaskie Babeczki”, „Бяседнікі” ды ўпершыню славуты тэнар Міхал Скепка (наш зямляк з вёскі Пасекі каля Семяноўкі) з опернай спявачкай Марынай Гаравой з Гародні (на здымку).



Фэст адкрыў ужо традыцыйна войт гміны Мікалай Павільч. Ён сардэчна прывітаў усіх прысутных, зычыў прыемных уражанняў ад канцэрта, прыемнага пасляабедняга адпачынку і ўсяго добрага ў прыватным жыцці. Канцэрт вяла Кацярына Грыгарук.

Першы на сцэне на прасторнай пляцоўцы каля фабрыкі выступіў стараляўкоўскі калектыў „Цаглінкі” з 16 спевакоў. Найперш праспяваў ён песню звязаную з ласкавай пагодай (перад канцэртам якраз прайшоў цёплы дождж і неба паяснела). Другая песня „Семяноўская чайка” была на словы Мікалая Варанецкага, нашага ніўскага карэспандэнта з Альхоўкі. На гэты ўрачысты момант аўтар спецыяльна прыехаў на фэст у Старое Ляўкова. Усе яго віншавалі з прыгожай песняй ды з поспехам на літаратурнай ніве. Варта дадаць, што за гэтую песню спадар Мікалай заняў першае месца ў конкурсе на верш на сёлетнім фэсце на Панцеляймона ў Семяноўцы. Аўтар гэтага артыкула за верш „Семяноўка прыгожая, любімая” атрымаў другую ўзнагароду. Затым паплылі песні рускія і беларускія: „Смуглянка”, пра маладую цыганачку і „Колькі ў небе зор”. Прыгожага іх выканання хацелася слухаць.

Малады гурт „Twister” (назвалі сябе Тамаш і Лукаш) з Беластока спяваў прыгожыя пераважна аўтарскія меладычныя польскія песні пра каханне, пра юнацкія мары і сваю дзяўчыну-выбранніцу. Ён ахвотна раздаваў свае кампакт-дыскі тым, хто затанчыў перад сцэнай. Найбольш іх атрымалі маладыя танцоры.

Ад гадзіны 18.15 да 19 гледачоў вельмі ўдала бавіў жаночы кабарэ „Podlaskie Babeczki”. Чатыры артысткі спявалі рускія, беларускія і ўкраінскія песні, расказвалі анекдоты, пераклікаліся з гледачамі (мелі яны сімпатычны і поўны гумару непарыўны кантакт з публікай), строілі кепікі з некаторых нашых падвыпіўшых кавалераў, якія так і круціліся перад сцэнай, смешна-пачварна і абы-як танчылі дзеля таго, каб рассмяшыць публіку. І нічога дзіўнага, што некаторыя з гледачоў смяяліся да ўпаду.

Цудоўна, вытанчана выканалі арыі выдатныя артысты: вядомы ў краіне тэнар Міхал Скепка і сапрана Марына Гаравая. Спявалі па-італьянску неапалітанскія аперэты і па-польску — сола і ў дуэце. Іх моцныя галасы несліся далёка-далёка па ўсім наваколлі. Слухачы папрасілі іх праспяваць адну песню на біс.

На заканчэнне канцэрта амаль з гадзінным рэпертуарам выступіў гурт „Heven”. Канцэрт прадоўжыўся да 21 гадзіны. Прыемна і весела было пасядзець (гмінныя ўлады паклапаціліся пра лавы) і паслухаць мілагучных беларускіх песень на вольным паветры. На месцы былі ўсялякія ларкі, між іншым, з півам, ахаладжальнымі напіткамі і марожаным.

Маладзёжная забава грымела ажно за поўнач. Ігралі і спявалі „Бяседнікі”. У Старым Ляўкове добра загулялі.

Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА

# Паломніцтва на Святую Гару Грабарку


Ева і Яраслаў Сахарчукі з дачушкай

13 жніўня з царквы св. Ільі на Дайлідах выйшла XXIX паломніцкая група Брацтва праваслаўнай моладзі на Святую Гару Грабарку. Кіраўніком пілігрымкі з'яўляецца Ксенія Кацэйка. Траса паломніцтва складае 165 км з вызначанай начлежнай базай у Кажанах, Бельску-Падляшскім, Кляшчэлях, Чаромсе і Тэлятычах. 16 жніўня пілігрымка спынілася паесці ў вясковай святліцы ў Кузаве, затым падалася на начлег у Чаромсе. На адвячорку ў суботу адбылася ў царкве вячэрня, а наступнай раніцы — ютрань.

Калі ў царкве адбывалася набажэнства, наладзіў я размову з праваднiком групы Мікалаем Лабадзінскім.

— У паломніцтве ўдзельнічаю ад пачатку арганізавання пілігрымкі. Мне 54 гады. Кавалер. Выходжу з Сабытына. Група, якую суправаджаю, лічыць больш за трыста пяцьдзесят удзельнікаў рознага ўзросту, ад двухгадовых дзетак да пристарэлых бабулек. Значную частку складае моладзь ва ўзросце 25-35 гадоў з Падляшша ды з Прыбалтыкі: Літвы, Латвіі і Эстоніі...

Падыходжу да маладога сужонства з каляскай і маленькай дачушкай.

— Адкуль будзеце? — цікаўлюся.

— З Беластока...

— Першы раз удзельнічаеце ў пілігрымцы?

— З дзіцём упершыню. Раней сам паломнічаў...

— Некалькі год таму група складала каля паўтары тысячы чалавек, а нават больш дзвюх тысяч, — канстатуе сімпатычны маладзён Яраслаў Сахарчук. — З ходам часу паломніцтва пачынае знікаць. Таму сямейна падтрымліваем традыцыю.

— А дзе начуеце з дзіцём?

— У Чаромсе якраз не было праблемы. У суседніх Янцэвічах сямейнікі жывуць...

Канчаецца ў царкве набажэнства. Праз мегафон абвяшчаюць паведамленне: „У далейшы паход пілігрымка адпраўляецца ў 11:30 у напрамку Зубач”.

З паломніцкай групай і са сваімі суразмоўцамі развітваўся я на вуліцы 1 Мая побач даўнейшага ўнівермага. Калону ўзначальваў на матароле ры Мікалай Лабадзінскі. Там я зрабіў памятныя здымкі.

Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА



Вераніка Будроўская з наймалодшай сястрой Аннай

# Нечаканы госць

Сямідзесяцігадовая Вераніка Будроўская нарадзілася і жыве ў Крынках. Разам з мужам Томашам нажылі дзвюх дачок, трох унукаў, прыгожую вялікую хату з тэрасай і добрую пенсію. Усё роўна чагосьці ёй не хапае. Быццам дабрабыт, выгода, але нідзе не знайсці, нідзе не дастаць таго, што калісь давала рух у жыцці. Цяпер, на думку спадарыні Веранікі, свет застыў у абыякавасці.

А тады Вераніка жыла ў маленькай хатцы. Сям'я з дзевяці чалавек займала толькі адзін пакойчык і невялікую кухню. Хапала месца і старой, адзінокай Стэфці, прытуленай Амеліяй, Веранічынай мамай. Хатку асвятлялі маленькія аконцы і газавая лямпа. Жылі згодна. Не сварыліся ні ў хаце, ні пад хатай.

Гэта было ў вайну. Пра здарэнне Вераніка даведалася ад сваёй маці. На пяты вечар пасля нараджэння шостай па чарзе Амельчынай дачкі, Веранікі, у хатку зastукаў нечаканы госць. Уцякаў ад немцаў, якія хацелі яго забіць, шукаў прытулку і кавалка хлеба галадаючым дзецям. Схуднелы, з доўгай барадой яўрэй пачаткова напалохаў Амелію. Мужа якраз не было ў хаце, пайшоў да суседзяў — Амельчыных хрышчоных згуляць партыю ў карасінку. Пашкадавала Амелія беднага чалавека. Але скуль узяць яму хлеба? Запас толькі што скончыўся, а выпечка свежага была запланавана на наступны дзень. Пакінула мама госця ў хаце, а сама падалася да хрышчоных за хлебам. Надта здзівіліся яны, убачыўшы Амелію.

— У так познюю пару ты прыходзіш хлеб пазычаць?

Пачуўшы пра галоднага госця, гаспадыня выняла бязмен, так называлі калісь тут ручную вагу, і адважыла Амельцы пяць фунтаў, значыць два з паловай кілаграма хлеба.

У кухні на пліце Амелія пакінула саган бульбы ў лупінах, ад якога схуднелы яўрэй не мог адарваць вачэй.

— Я вам яе пачышчу, — запрапанавала.

Яму так есці хацелася, што еў тую бульбу разам з лупінамі.

— Мо пераначуеце? — запытала ў яго.

— Калі немцы даведаюцца, расстраляюць вас і вашых дзяцей, — адказаў незнаёмы.

Тады мама завяла яго на начлег у свіронак. Раніцай, падзякаваўшы за гасціну, яўрэй пайшоў да сваіх галодных дзяцей. Як склаўся ягоны лёс — невядома.

Іаанна ЧАБАН



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Цёплая кніжка Міры Лукшы



**Зорка:** — *Кніжка „Падарункі”* гэта 83 вершы на розную тэму і напісаныя ў розным часе.*

**Міра Лукша:** — Так, некаторыя вершы вельмі доўга даспявалі да кніжнага выдання, напрыклад, верш пра ката Мікіту з 1992 года. Ён стаў падставай музычнай п’есы „Дзівасіл” і жыве ўжо сваім жыццём як гіт у Беларусі. Аднак большасць вершаў са зборніка была натхнёна „Зоркай” і напісана для нашых чытачоў. Частка з іх гэта тыя творы, якія не ўвайшлі ў кніжку „Жывінкі з глыбінкі”, ёсць таксама вершыкі пра імёны і пра школу.

**З:** — ***Я шукала нейкі ключ да цэлай падборкі і не знайшла. Ён дзесьці прыхаваны?***

**МЛ:** — Гэта таму, што галоўны верш, які адкрываў цэласць, не апынуўся ў зборніку. Я маю на ўвазе верш „Рабое сонца”. Ён пра вяснушкі на ясным сонейку. Вельмі зладжаны ў настроі з ілюстрацыяй Касі Сянкевіч. Рэдактар тома прафесар Ян Чыквін прапанаваў, каб кніжка называлася „Падарункі”, бо яна прамаўляе як сапраўдны падарунак вучням пачатковых класаў. У кніжцы менш вершаў, чым прапанавалася. Напрыклад, верш „Дубанос” рэдактар палічыў занадта энцыклапедычным і хаця ў кніжцы апынуўся малюначак птушкі дубаноса, верш не паявіўся.

**З:** — ***Гэта ўжо Ваша трэцяя кніжка для дзяцей. Якое гэта пачуццё?***

**МЛ:** — Паэт павінен мець адкрытую і крыху па-дзіцячы наіўную душу. Душу, якая бачыць мурашачку ці кветачку і адначасова вялікае сонца. Спачатку, калі ў мяне не было свайго дзіцяці, я пісала для розных дзяцей. Пасля, калі нарадзіўся Радаслаў, калі ў яго з’явіліся сябры, я напісала шмат вершаў канкрэтным дзецям. Гэтыя дзеткі — ужо студэнты. Я пісала таксама вершы да мюзіклаў і пастановак для беларускага садка, таму што супрацоўнічала з настаўніцамі. А том „Жывінкі з глыбінкі” стаў падставай для мюзікла, які паставілі ў беластоцкай „чацвёрцы”. У кніжцы апынуліся таксама творы, якія сталі вядомымі гітамі на Беласточчыне, напрыклад „Хворы коцік”.

**Зорка:** — ***Якое ў Вас пачуццё, калі спяваюць песні на Вашы вершы?***

**МЛ:** — Пачуццё, што гэта ўжо нешта іншае.

**З:** — ***А што думаеце пра дэкламатараў, якія выступаюць на сцэне і забываюцца назваць імя і прозвішча аўтара?***

**МЛ:** — Гэта, сапраўды, вельмі непрыгожа! Але не толькі на конкурсах. Я ўчора была на фэсце ў Бельску, дзе прагучалі песні на мае словы. Гурт не толькі што не прызнаўся, хто аўтар песні, яны нават не ведалі хто напісаў „іх” песню. Атрымалася вельмі непрыгожа, бо гэтую песню пад загалоўкам „Наш край” якраз я дала іншаму гурту. А тыя ўзялі і нават не спыталі пра згоду: ні мяне, ні першага выканаўцу. Мы прывыклі, што беларушчыну можна браць дарма. А гэта звычайны крадзеж.

**З:** — ***Вельмі непрыемная справа. Менавіта, калі я чытала „Падарункі”, падумала, што такая падборка вяртае памяць невукам. Але вернемся да кніжкі. Хачу спытаць пра Вашых любімых аўтараў, якія пішуць сучасную літаратуру для дзяцей на беларускай мове?***

**МЛ:** — Праблема ў тым, што ў нас выдаецца няшмат беларускай літаратуры для дзяцей. Кошт такіх выданняў вялікі, бо тут павінны быць малюнкі, саліднае выкананне. У маёй кніжцы арыгінальныя малюнкі Касі Сянкевіч, зробленыя пчаліным воскам. Шкада што ў кніжцы не перадаўся той пах воску і фактура, якая цікавая ў дотыку. Калі ідзе пра маладых аўтараў, тут відавочныя Алесь Бадак, Алена Масла, Людміла Рублеўская, Віктар Шніп...

**З:** — ***Дзе можна набыць Вашу кніжку?***

**МЛ:** — Будзе сустрэча ў Бельску 30 верасня, рыхтуецца сустрэча ў Нарве, неўзабаве будзе прамоцыя кніжкі на Фестывалі беларусаў свету ў Мінску. Разам з вершамі будуць паказаны працы Кацярыны Сянкевіч.

**З:** — ***Яшчэ раз віншуем з выхадам кніжкі і чакаем новай. Ці ёсць можа ўжо нейкая задума, ідэя?***

**МЛ:** — Ідэя і задума заўсёды ёсць. Важна, каб была яшчэ дапамога.

* Міра Лукша, *Падарункі*, Бібліятэка Беларускага літаратурнага аб’яднання „Белавежа”, Беласток 2014.

## Увага, конкурс!!! (№ 37-14)

### Загадкі з роднай хаткі

**Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку” да 30 верасня, найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

**1.** З белага каменя,
з жоўтага воску
выйшаў спявак
і запеў на ўсю вёску!
(п....)

**2.** Гальчастыя рогі,
хуткія ногі,
колер поўсці — залаты.
Хто я, а ці ведаеш ты?
(а....)

**Адказ на загадкі № 24-14: Маланка, мурашка.
Узнагароды, фламастары, выйгралі Бэата Цілюлька з Бабік і Ганна Хаманюк з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

*Наталля МАРЧУК,
Нараўка*

## Паэты

*Кажуць паэты, згодна з тэмай
Пішуць, паэзію заўсёды добра.
Пра форму дбаюць,
Прыгожа чытаюць.
Аднак не падабаецца яна нікому.
А трэба ісці за модай
І пісаць так, як хочуць,
Каб чыталі!*

# І зноў у школу

Не вельмі хацелася расставацца з канікуламі ўжо чацвёртакласніцы Вікторыі. Ну што ж, абавязак, нідзе не дзенешся. У школу прыйшла яна разам з малодшай сястрой Ігай і бацькам.

— Будзе нашмат больш прадметаў, чым у мінулым годзе, — непакоіцца школьніца, — і настаўнікі іншыя.

Другакласніца Іга школьнага званка чакала з нецярпеннем.

— У хаце мне нудна, а ў школе шмат сяброў.

Школы не пабаяўся таксама амаль шасцігадовы Філіп. Не пашанцавала яму ў прошлым годзе з прадшколлем. Проста не хапіла месца. Цяпер стартуе зразу ў нулявы клас.

— У мяне тут ужо і сябра ёсць — Шымон. Мы з ім сёння пазнаёміліся, — кажа бадзёры хлопец.

На ўрачыстае адкрыццё школьнага года ў Комплексе школ у Крынках прыбылі таксама бургамістр Багуслаў Панасюк, старшыня Гарадской рады Аліцыя Трызна, каталіцкае і праваслаўнае святарства, паліцыя.

Свае прывітанні да ўсіх прысутных накіравала дырэктар школы Анна Тамулевіч.

— Абавязкі дырэктара я пераняла з сённяшнім днём, — прызнаецца нашым чытачам.

— Вы карэнная крынчанка?

— Так, тут я нарадзілася, тут вучылася, тут працую. Ужо васямнаццаты год навучаю польскай мове.

— Ці ў адміраючых Крынках будзе каго вучыць?

— У гэтым годзе пачынае навуку 267 школьнікаў, большасць з іх мясцовыя. З вёсак даязджаць будзе толькі 37 дзяцей. Ахвотныя змогуць паўдзельнічаць у пазаўрочных занятках. Напэўна будзе спорт і падрыхтоўка да гімназічных экзаменаў.

— А што з рэгіянальным кружком?

— Настаўніца, якая гэтым займалася, адышла на пенсію. Невядома ці будзе запатрабаванне на такога тыпу заняткі з боку дзяцей.

— Вашы мэты ў бягучым годзе...

— Увядзенне электроннага дзённіка, увядзенне, залежна ад запатрабавання, ранняшкольнай дапамогі ў прадшколлі, павышэнне ролі вучнёўскага самакіравання ды развіццё метадаў навучання і ацэнкі.

**Іаанна ЧАБАН**
**Фота аўтаркі**


*Крынскія вучні*


*Дырэктар школы Анна Тамулевіч*


*Міра Лукша і Віктар Швед*

**Сільвія ГРЫКА**
**Караліна ШЫЦІК,**
*Міхалова*

## Восень

Восень, восень,
каляровая пара.
Халодныя ночы прынясла.
Восеньскае сонца
ўжо не грэе,
Кожны дзень
толькі халаднее.
Сонца гуляе з намі:
Хаваецца за аблакамі!

## Грыбы

Калі вецер хутка
восень нясе,
Тады грыбы растуць у лесе.
Маюць шапкі каляровыя,
Карычневыя, жоўтыя і шэрыя.
Растуць у лесе пад дрэвамі,
Асобна або парамі
Рыжыкі, баравікі і маслякі...

# Вершы Віктара Шведа

## Сустрэўся лысы з рыжым

Сустрэлася двух сяброў
Цалкам лысы з рыжым.
— Паскупіў Бог валасоў
Лысаму бамбізе.

Лысы яму адказаў:
— Даваў мне, вядома,
Рыжых я валос не браў,
Бог іх даў другому.

## Калі памёр Калумб?

Настаўнік запытаў:
— Скажы ты мне, Якуб,
Ці ты запамятаў,
Калі памёр Калумб?

Са здзіўленнем у ваччу
Адказаў ён, як умеў:
— А я ніколі не чуў
Каб ён у жыцці хварэў.

## Кінуў курэнне

Хвалілася жанчына:
— Мой муж курэнне кінуў.
— Як гэта стала фактам —
Моцны ў яго характар?

— Не ў яго, вядома,
А мой характар дома.
Няўдалы муж, паверце,
Курыў бы аж да смерці.

## У музычнай школе

— Мусім пані сказаць
Што сынка Міколы
Мы не можам прыняць
У музычную школу.

А не можам таму,
Што не мае ён слыху.
— Яшчэ ўчора усё чуў,
Што гэта за ліха?

# Польска-беларуская крыжаванка № 37

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку н-р 34:**
Сена, вока, вечар, вырай, інакш, фа, плыт, Ніка, знак, мой. Слонік, вапна, выклік, вершык, хоча, там, кайф, дар, алей.

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Ostroga | Bór / Panda | | Znak / Cebrzyk | | | | |
| | | | | | Za / Ród | | Ogół / Chata |
| Ara | | | | Ruch / Kot | | | |
| Jad | | Szkoła | | | | | |
| | | Kod | | | | | |
| Agat | | | | | Bierz | | |

Марыя САШКА

# ЧАРОМУХА

## (ч.II, працяг з 36 н-ра)

Віцюсь, золатка, хлопча-рыбалоўча, будзеш мілы? — кінула яна з таго берага. — Я па чаромуху, пад вадаспад; да Белай гары далекавата, дзе мост: кладка, вось, побач, ды я ўсё жыццё яе баюся, сама не перайду, бабахну ў яму, захлябнуся; як у песні можа быць Віцюсь: „перавязі мяне, казак, цераз быструю воду...".

Ён перабег праз кладку да Міські. Глядзеў на яе як бы першы раз! Якая статная, сапраўды, сёння чамусь асаблівая; у сукенцы якой! Як яна ляжыць на ёй! У гэткія лісточкі-лапкі-гарошкі-кветачкі з зельцам усялякім, колькі яго рознага, як луг гэткі наўкруг! Што за грудзі, як бы дагэтуль і не было ў яе такіх! Бацькі-матушкі! — якія ў яе навокал прывабнасці!..

„Суседзік дарагі, ты трымай-прыцісні мяне б-о-л-е-й! А то выкаўзну, ей-ей! У-ж-о ў маёй мазгаўніцы вада пачынае бушавацькруціцца, анёлы святыя!.." — „Ты ўверх глядзі, Міська.." — ён узяў яе пад рукі, прытуліўся да яе цёплых, дрыжачых плячэй, і — п-а-й-ш-л-і!!!

Яны былі ўжо на тым баку, але стаялі, з-а-б-ы-л-і-с-я ад сябе а-д-а-р-в-а-ц-ц-а, а-д-дз-я-л-і-ц-ц-а не хацелі!!! Міська павярнулася, абхапіла Віцюсеву галаву, глянула ў сінь-сіняву блакітную яго вачэй з даўжэзнымі вейкамі, прыпала соладка да губ: „Гэта перавозчыку праз наша мора шырокае! — засмяялася. — Іду па пахань-чаромуху белую!.." — „Мяне в-о-з-ь-м-е-ш?.." — „Тады вядзі да нашай Ніягары!.."

* * *

За вялікім ровам, дзе меншыя і большыя горкі-грады вядуць на Белую гару, стаяў сцяной цесны лясны масіў, які неспадзявана падымаўся ўвысь на многія дзясяткі метраў, упіраўся ў скалы, парослы многасцю розных дрэў, кустарнікаў, царствам квітнеючай чаромухі, якая — ад лугоў другабережных гледзячы — здавалася велічавай кіламетравай працінай, адкуль на вёрсты ляцеў яе чароўны духмяны пах, парфюмерыя цэлая!.. Угары бурліла адвечная тут крыніца — возера блакітнае, кусочак-адрэак, і ў нашых краях, райскага куточка, адпраўляючага ўніз свае воды ў нашу Нараўку, з шумам-лоскатам цераз магутныя карэнні векавых дубоў і грабаў, кажухі траў і зелля, імхоў розных, і кветак-кветак-к-в-е-т-а-к! — ад колераў якіх вочы разбягаліся-танцавалі!.. Вада бегла, падала, ляцела, гудзела — светлая, мяккая, халодная...

Маладыя прагна пілі яе прыгаршчамі... А вада падала стаўпом-сцяною бясконцаю, за якой там, пад скаламі тварыўся калідор-схованка, дзе можна было скрыцца-знікнуць перад сонцам, рэчкай, гулам, людзьмі, светам цэлым...

Віцюсь заглядзеўся на дрэвы-волаты, калі пачуў сваё імя, павярнуўся... Перад ім стаяла Міська, сукенка ляжала побач... Віцюсь п-е-р-ш-ы раз бачыў дзяўчыну т-а-к-о-й! Павабнасці і красы гэткай ён яшчэ н-е з-н-а-ў!.. Грудзі... Далікатныя... як ш-т-о? Ён і сам не ведаў... Як я-б-л-ы-к-і?— вялікія, антонаўкі белыя?.. Галава закруцілася, пайшла ў бакі!.. Ён таксама скінуў сваю адзежу... Гудзела вада... Міська ўзяла яго за рукі, і яны ў абдымках пайшлі праз вадаспад, пад скалы, у схованку... Віцюсь цалаваў гэтыя яе два цуды-яблыкі, сходзіў н-і-ж-э-й (дык, вось, як выглядае дзявочая краса!), кранаў губамі яе цёплы, мяккі жывот — твaрам прынік, прытуліўся, з пацалункамі зышоў яшчэ н-і-ж-э-й! — якая ўсюды цудоўнасць дурманячага цела, нябачаная дасюль, б-о-с-к-а-я!..

Міська падняла яго з каленяў... А вада сачылася і на іх, шумела-стукала, як і іх галовы і сэрцы!.. Яна цалавала яго вочы, грудзі, пайшла н-і-ж-э-й — не ўстыдалася; распусціла свае велічныя цуда-валасы, абтуліла імі яго жывот, яго ногі... А вада гудзела, пакрывала іх сотнямі краплінак-шарыкаўбубачак-ягадак!.. -

— П-о-й-дз-е-м! — сказала Міська. Яны выйшлі з-пад вадаспада, леглі сярод белай чарамшыны, квецця зялёнага, буйнага, дрэў высокіх, маўклівых, зацішных перад іх шчасцем-каханнем... І з-а-б-ы-л-і-с-я.. І п-а-л-я-ц-е-л-і на сваіх сардэчных арэлях, гайданцы высокай, нябеснай, у заморскія-райскія краіны, якіхсьці Гаваяў любоўных, з амброзіяй сваіх губ — нектарам ад багіні Гебы, з сінню і чарнатой сваіх прагных вачэй, глухатой вушэй, гарачым спляценнем рук, цеплынёй целаў, якія н-е х-а-ц-е-л-і ўжо быць чужымі, а-д-дз-е-ль-н-ы-м-і!!! Сталі е-д-н-а-с-ц-ю!!!

* * *

„Віцюсь, сон ты мой светлы, мара мая мнагадзённая; прыляцела я сюды з табой на самалёце дзіўным-дыване!.. Кахаю цябе ад вякоў, дарагі, гадамі цэлымі, баючыся адкрыцца — бо адкінеш..." — „А я, Міська, няздара, усё пападаў — шчасце якое? — на твае расправы з кавалерамі; хоць бы сказала, сігнал дала: ты ж сваёй капусты, памідораў яшчэ не забраў, хадзі! А то саб'еш мяне з панталыку — я і слоў у вуснах забуду; збіраўся колькі раз, але Колька Засімоў перасцярог — мы якасьці пра цябе згаварыліся — „нават пацалаваць жартам не даецца, ды каб прытуліцца? — што пад рукою — тым і матычыць! Крычыць: „да балгарак на шашы марш, з імі мяне раўняеш?!. Мардаху ўраз, як стругам, абчышчу!!!" Думаў ужо татку майго прасіць, ты ж чула — ён у жартах усё з табою жэніцца; ты была ў нас, а ён рагатаў: „Дальбог, Міська, ажанюся я з табою, маці Верку сваю пакіну, бо якая ж з цябе баба! Сорт высачэйшы навокал — аж слінка цячэ, ну й душа ў цябе добрая, сіяе, гэта ж ты пры нас расла!" Вось так бацька мой — Янкоўскі стары — серэнады табе выспеўвае, а сынаві нічога не ўдаецца! Нікудышняму тугадуму!..

* * *

Калі яны нарвалі бярэмя духмянай чаромухі, адышлі над рэчку. „Кветкі перанясу, потым за табой пераскочу..." — „Віцюсь, не выдумала, ей-ей, баюся я кладкі адвечна, сама ніколі не йшла!" Яны развіталіся... „Цяпер я ўжо не змагу, Міська, сам!.." — „І я сёння спаць буду ў раі, і чаромуха будзе са мной, сведка майго шчасця; на, вазьмі і ты, пастаў побач, пацалуй, пагладзь, гэта я буду, я пачую!.. Пацалуй мяне яшчэ раз, ш-ч-а-с-л-і-в-у-ю!." — „Дзяўчына ты мая!.." — „Вудачак не забудзь; заўтра тут жа, Віцюсь, у поўдзень зможаш?.." — „Мая ты сінічка, ластаўка!.."

* * *

Назаўтра зноў была чаромуха... Зноў яны паляцелі, пашыбавалі дзесьці ў індыйскія пушчы, на пляжы Шры-Ланкі, ці яшчэ д-а-л-е-й!..

„Віцюсь, — сказала Міська, калі яны ўселіся каля вудачак, — нам пагаварыць трэба, аба мне, каб ты ўсё ведаў; ты быў у Варшаве, я ў Ольштыне, а тут таксама ішло жыццё... Мае бацькі былі сапраўды цудоўныя людзі, карысталася я гэтым, ой яшчэ як! Кніжкі-сукенкі-боты-паліто: будзь ласка, сёння! Шчаслівая я была, як і цяпер з табою, а як будзе з намі, я й не баюся; старэйшая я ад цябе, ведаю, а пра мяне і песня ў сяле: „Называют меня некрасивою, так зачем же он ходит ко мне?" Бабскі век — сорак лет, старухай стану — не кінеш? І не боязна мне! А сёння заплюшч вочы, што я „некрасівая"... — „Ну й цудачка ты, Міська, каб хто ведаў я-к-а-я ты т-а-м усюды — прыбілі б мяне, цябе забралі б сілай! Столькі побач быць-хадзіць і не ведаць цябе? Паскуда я, Міська, як і калі толькі асмеліўся!.."

„Дык, вось Віцюсь, паўтараю пра бацькоў маіх мілых; хоць з твару і не былі кіношнымі прыгажунямі-красаўцамі; мы, маці, з табою як два пні з сукамі — смяюся бацька мой Трафім, а мама Зоська толькі казала „але ж" і цалавала татку з усмешкай, дый на людзях, а ўсе казалі: а-р-ц-і-с-т-ы, дальбог, гэтак, вось, жыць!.. Калі старшы брат мой утапіўся, нейк дзіўна, пры кампаніі, пры Косым мосце, яны зусім у сваю шкарлупу закрыліся, прэтэнзіі дзе да каго мелі, недаказаныя, у хаце шапталіся, мне не пераказвалі... І ведаеш, пасля пахавання Жоржыка, у сяле і ў школе, нейк у адзін дзень перасталі мяне празываць Чучалам-Страхапудам!!! Хтосьці, не помніцца хто, паклікаў мяне: „М-і-сь-к-а!" Я не адклікнулася. „Гэй, Старчучка, Маруся, я да цябе!" Так і пайшло „Міська!" Потым заспявалі: „некрасівая", дык дадавалі: ды каб каго з нас т-а-к каго любілі, уважалі!.. А было ў маленстве-юнасці цяжкa: брыдэча, пудзіла! — дзяўчаты крычалі, хлопцы рэдка, бо я Колю Заброцкага накаўтам на траву ўлажыла, акрывавіла.. Ужо не падходзілі, не крычалі... Адна асталася, ды з фермай-агародам, кабялі папаўзлі-палезлі, і я адна — то й спадніцу можна задзерці!.. Маўчала, цішком адбівалася, але, аднойчы, Сцёпку Раманавага „эрка" забрала, я яго паламатала, пайшла да бацькоў, сказала. У блюзцы ў клакі-карвашы падзертай, „зняволіць хацеў, падавайце ў міліцыю, не баюся..." Вечарком прыйшлі, міру шукаць, лагодзіць справу..."

* * *

„Мо й не ведаеш усяго? Бацькі мае паехалі па авёс, зноў коні панеслі... Бо яны абодва наравістыя, прыгажуны!.. Бывала, татка фуру ўскладзе — а на падворак з адным снапом даляцяць канякі ракетай-экспрэсам, па сяле гудзяць, пшаніцу губяць... Дык авёс — коні пагналіся, а насупраць дзве аўтафуры, піраміды, схавацца не было нікуды, ніяк, нікому, ні коням-бацькам ні машынам-вагонам... Дактары з паліцыяй кашу-месіва чалавеча-конскае з гасцінца забралі!.. Так я ў сіроцтве асталася, сама гаспадар і гаспадыня, з Ольштына вызвалі, ферму вяду... Ой, з гэтымі конямі! Суседзі сто гадоў гаварылі таткаві: „Трафім, на якую пагібель-халеру табе гэтыя канякі-забійкі? Памяняй, прадай, у Варшаву на Служэвец на бегі-гонкі аддай, ці на каўбасы; прыб'юць яны цябе, бандзіты-мамуты!.." — „Ага, усё жыццё са мною, я са звярынай-скацінай і — разлучайся?!. Гэта ж смерць мне!" А смерць, вось, ад іх, рысакоў з пушчай увысь раўняючыхся, і прыйшла-прыехала!.."

* * *

Калі яны выйшлі з Грушкаўскога ляска, Міська, абняўшы Віцюся, пачала: „Я пра сябе яшчэ хачу, пра дурасць сваю юнацкую, таіць — не чэсна!.. Мне было дзесь 16-17 годзікаў няцэлых, калі задурманіў мяне, бязграматную зеляпуху Цыганчык — дый ноне так яго клічуць — Сачынскі Мікітка, муж Лізанькі цяпер, што жывуць каля крыжа... Сохлі па ім дуралейкі маладыя і старшыя — замужнія, падлеткі-дзяўчаткі пяткі абсіквалі... Адкуль мне знаць, які ён, гэтакі чарцяка з бародкай ды чубам цыганскім, ён і сёння прыгожы, а тады ў яго дваццаць? Я папалася, с-т-а-л-а-с-я! — і не паняла калі, я салата зялёная! Бо казаў — кахае, а я й не думала тады, што пра г-э-т-а ілгаць-маніць можна!.. Ружы ён мне ў бабкі Фросі краў — прыносіў, дый разлезлася я, думала — ён толькі мой!.. Ды, бачу, ён чагосьці наровіць у бок, увільвае-ўцякае ад спаткання... Кліча мяне Лізанька: табе адной скажу, падружанька, ага, я Мікітку п-а-п-р-о-б-в-а-л-а, мне Насця Калеснікава падказала: у яго т-а-м такія алімпійскія і-н-с-т-р-у-м-е-н-т-ы! — мычаць ад захаплення будзеш!.. Лізанька ж не знала пра мяне і Цыганчыка... А тут, прадаўжае Лізанька, яшчэ і Верка Качаноўская, што маладою ўдавою асталася, муж у самаходзе пагіб, мне заяўляе: пабач, якая я халерніца, маці мая на печцы вечарком грэецца, а я на Мікітцы, у пакоі, вярхом „езджу", гікаю і павіскваю ад дзіва-шчасця майго кароткага-ўдавінага! Як птушка я тады была-лётала! Мне, што, шкада? Гэта ж не вуліца, расшырыцца і стуліцца!.. Ой, Міська, — уздыхнула Лізанька, — ужо другі раз, праз дзень-два, не адпушчу я яго цяпер, гэта ж асалода адна, захамутаю я Цыганчыка, закнэблюю!.. І слова, глянь, датрымала, хаця ён і цяпер да маладзіц рвецца, двое дзетак у іх, гаспадарка шыкоўная, а Лізанька часам за ім і з бічом ходзіць!..

Глянь, а Цыганчык мне раптам цюльпаны прыносіць, яго я імі і п-а-с-в-я-н-ц-а-л-а, назаўсёды! Пробаваў яшчэ з заляцанкамі-цалаванкамі, але я віламі прыгразіла!.. Ад таго часу і сама я, Віцюсь, і нікога не падпускаю, а, вось, ты!.. Лезуць, паўзуць, едуць, хто толькі „для пажывы" думае — сама баба адна псуецца, талкуюць, хто і з паважнасцю, ды я на цябе заглядзелася!.. Паноў гэтых, патрэбнікаў, я па шляпе, не для мяне яны, не па любоў яны ідуць, калі з бегу наровяць руку пад спадніцу ўкласці; я чакала, калі п-а м-я-н-е хто прыйдзе, па „некрасівую"!.. Судзі, разбірай цяпер, я начакалася, д-а-ч-а-к-а-л-а-с-я! Мне чаго яшчэ? Возьмеш такую?..

* * *

Міська вярталася з крамы, калі яе аклікнула Міхалава Жэня: „Да нас хадзі! Гэй, гыля-гусі-зранку-гаспадыня! Што ты цяпер так расцвіла? Аль каханенькі трапіўся і ты яго больш не гоніш? Вось, бабы кажуць — ты кожны дзень ідзеш-спяваеш, у новае перадзяваешся, а вочы твае — вочы якія, усмешка, не было ў цябе дасюль такой! Зззянне адно! Па вуліцы ідзеш — як пава плывеш, хвост распусціла, з усімі па раз пяць здароваешся, забываешся!.."

„Бо шчаслівая я проста, суседачкі! Сонца якое, глянь! Як свецяць-іграе, і чаромуха якая наўкругі?!. Х-т-о з'явіўся? А цар мой-кароль-князь-баярын-атаман кашавы, казак — казка мая чароўная!.. Забылася я, як мяне і завуць! Дачакалася я, сястрыцы, дай і вам Бог т-а-к-о-г-а на дзень кожны!" — „Хто ён, відна заморскі, ты ж тутэйшых усіх распудзіла! А на вяселле папросіш?.." — „Ужо сёння к-л-і-ч-у! Ну, каравайніцы, фартухі-вышыванкі гатоўце, цеста-каравай-здобу мясіце, з песнямі, ляпіць, пячы!.. Я ў раі, дзеванькі-бабанькі, я вагонь свой знайшла, папараць-кветку купальскую, сярод чаромухі пахучай дагледзела — с-а-р-в-а-л-а!!!

* * *

„Мам-Тат, што я вам далажу! Нам бы да Міські зусім, ураз!" — „Сынку, з Богам і адпраўляймася! Нам ужо Чэсік Вільчынскі сказаў, вас, шчаслівых, у абдымках у ляску Грушкаўскім бачыў!.." — „Бо мы ўжо з два тыдні па пушчы-лугах ходзім, чаромуху ўсю абарвалі!.." — „Ідзем тады, маці, сыне, час вызначым як шыкарна тупнуць на вяселлі ды ў барабан шчыра загудзець-заламатаць!.."

* * *

... Дом Місьчын таксама быў абстаўлены чаромухай... „Гаспадынька! Гасцей-радзіну прымай, Бог табе ў дом, донька!.." Тая талеркі на зямлю ўпусціла, якраз выцірала, р-а-с-п-л-а-к-а-л-а-с-я... „Ну, значыць, мама Верка, сынку Віцюсь, нявестка ты наша, Міська — вяселле хутка — раз пасуда падае-б'ецца і маладуха плача, як па правілам паложана!..

Міська забегала, пераадзелася, да стала папрасіла... Уся засвяцілася, шчаслівая...

... „Віцюсь, а начаваць сёння — у сваю хату, успееце!.. Каб воўчая ватага яшчэ сёння не выла-не брахала ад дзіва, час ім дайце языкі праглынуць!.. Мір вам, дзеці, ад васток сонца на запад, хай усё будзе па-Божаму ў вас, у нас, б-у-д-з-е!.. Г-а-т-о-ў-ц-е-с-я, планупце, д-а-р-а-г-і-я, бласлаўляем вас, кахаем!..

# ВАЙНА І ЧЫГУНКА (ч. VII)

Успаміны Уладзіміра КЛІМЮКА, народжанага 18 лістапада 1923 года ў Цісоўцы, сына Іосіфа і Анастасіі.

У 1950-х гадах пасажырскія паязды прыязджалі толькі на станцыю Нараўка, станцыі ў Семяноўцы не было, а таварныя цягнікі курсіравалі за граніцу. Некалькі гадоў пасля вайны польскія і савецкія ўлады спланіравалі пабудаваць недалёка граніцы перагрузачныя рампы для лёгкіх і цяжкіх машын на выпадак вайны з заходнімі дзяржавамі. Гэтай маштабнай работай загадвалі майстры з цэнтральнай Польшчы, а чорнарабочымі былі сотні мясцовых людзей. Работа прасоўвалася хутка, будаўнічых матэрыялаў не бракавала. Станцыю Семяноўка пабудавалі на месцы ранейшай горкі, раскапаўшы яе на плошчы даўжынёй каля кіламетра і шырынёй у некалькі сот метраў; вывезлі адтуль пад мільён кубаметраў зямлі. На станцыі Семяноўка сходзяцца нармальныя і шырокія пуці, там мае сваю сядзібу пагранахова, таможня, мясцовая чыгуначная адміністрацыя руху і перагрузкі. Да часу змены грамадскага парадку ў Польшчы працавала там многа людзей, не толькі мясцовых, але даязджаючых таксама з Гайнаўкі, Чаромхі ці навакольных вёсак.

Шмат людзей жыло ў вёсцы Плянта і працавала на станцыі Нараўка. Трэба было ладзіць сходы, абучэнні, акадэміі з нагоды розных святаў, але не было для гэтага адмысловага памяшкання. Кіраўніцтва дарожнага аддзела ў Седльцах запрапанавала арганізаваць працаўнічую святліцу ў свабодным памяшканні вакзальнага барака пад эгідай чыгуначнага адрэзка Нараўка. Прапанова была слушная і своечасовая. Трэба было назначыць кіраўніка святліцы, які б прывёў яе ў дзеянне. Маё начальства запрапанавала мне пасаду кіраўніка святліцы на паўстаўкі. Я згадзіўся — мая хата каля ста метраў ад святліцы, ведаў я арганізацыйныя справы і знаў людзей, якія б мелі дачыненне да дзейнасці святліцы. Спярша было прашэнне да дырэктара чыгункі ў Варшаве з падтрымкай усіх чарговых начальнікаў у службовым парадку. Атрымаўшы станоўчы дэкрэт дырэктара, узяўся я за работу. Спярша былі зроблены лавы для сядзення для шасцідзесяці асоб, сцэна, кафляная печ; зала была памеру 12 на 5,60 метраў. Пажарнікі далі вогнетушыцель. У зале было трое дзвярэй: з залы навонкі і на калідор ды на калідор са сцэны; было чатыры вокны. Сцэны і столь абабіты былі драўнянавалакністай плітой і памаляваны, памаляваны былі таксама алейнай фарбай дзверы і вокны ды комін. Была закладзена электраправодка, былі куплены аконныя фіранкі і заслоны ды заслона для сцэны і матэрыял на галоўны стол. Купілі таксама сорак складаных крэслаў і дваццаць з мяккім сядзеннем, дзве кніжныя шафы і адну большую, у якой наверсе стаяў тэлевізар, а знізу былі музычныя інструменты; чатыры столікі, дзве вешалкі, флаконы для кветак. Прыдбалі радыёпрыёмнік, грамафон ды пласцінкі з песнямі і танцамі, гучнагаварыцель. Зладзілі маладзёжны музычны ансамбль, прыдбалі два акардэоны, дзве скрыпкі, тры гітары, тры мандаліны, некаторыя мелі ўласныя інструменты. У ансамблі займалася моладзь не толькі з Плянты; былі ў ім Аляксандр Кульбацкі з Міклашэва, Данута Грыка і Галіна Сухадола з Сушчага Барка, Оля Зданоўская з Нараўкі, сёстры Анішчук са Скупава і іншыя. Дырыжыраваў ансамблем пакойны Аляксандр Маеўскі, рэпатрыянт з Гродна, які жыў у Гайнаўцы, дзе працаваў з падобнымі ансамблямі ў тамашніх пачатковай і сярэдняй школах. Быў гэта старэйшы, спакойны чалавек; пісаў ён ноты і раздаваў сваім вучням. Ансамбль выступаў на розных урачыстасцях у сваёй святліцы, а было тады іх многа. Ездзіў таксама з канцэртамі ў Гайнаўку і іншыя мясцовасці, заўсёды збіраючы камплект слухачоў. За поспехі кіраўніцтва чыгуначнага аддзела ў Седльцах зафундавала ўдзельнікам ансамбля экскурсіі ў Белавежу і ў Варшаву з правадніком; большасць з іх упершыню наведала сталіцу. Ансамбль дзейнічаў 31 год. Спадар Маеўскі, беручы пад увагу паважны век, падаўся на пенсію, а двое кандыдатаў не задавальнялі неабходных патрабаванняў і праца ансамбля была спынена. У святліцы выступалі розныя калектывы з навакольных мясцовасцей, у тым ліку і з Беластока. Па серадах у святліцу прыязджала кінаперасоўка з Нараўкі, збіраючы шмат гледачоў; білеты былі танныя. У святліцы ладзіліся сходы розных арганізацый. Кола вясковых гаспадынь з Плянты ладзіла тут курсы крою і шыцця, пячэння, гатавання, прадукцыі мясной кулінарыі. Праходзілі там двухгадовыя курсы сельскагаспадарчай падрыхтоўкі, якія вялі спецыялісты з Гайнаўкі; завяршылі тыя курсы дваццаць чалавек. Былі курсы для фурманоў і веласіпедыстаў, завершаныя экзаменамі на вадзіцельскія правы. У той час веласіпеды мелі рэгістрацыйныя табліцы, таксама фурманкі мелі падобныя абазначэнні. Большыя мерапрыемствы ладзіў я ў паразуменні з пастарункам міліцыі ў Нараўцы, пастарункам аховы чыгункі ў Семяноўцы ды пажарнай камандай дзеля забеспячэння імі парадку.



Фота Аляксандра Вярбіцкага

Чыгуначная станцыя ў Семяноўцы

У час летніх канікул моладзь хацела ладзіць як найбольш патанцовак, аднак вакзальная святліца не магла задаволіць гэтых пажаданняў, бо была зацесная. Узнікла думка пабудаваць танцавальную пляцоўку. Дзякуючы падтрымцы мясцовых чыгуначных улад і асабіста Станіслава Гарбалінскага і Паўла Леўшы паўстала танцавальная пляцоўка ў прыгожым месцы недалёка ад станцыі ў антуражы высокіх дрэў. Чыгуначнікі ўладзілі там міні-парк, высеклі кустоўе, праклалі алейкі, паставілі лаўкі для сядзення. Музыка і радасць жыцця разліваліся адтуль шырокім рэхам па наваколлі. Колішняя моладзь чулліва ўспамінае той бестурботны перыяд свайго жыцця.

У святліцы быў бібліятэчны пункт, у які кніжкі пазычаліся з чыгуначных дамоў культуры ў Седльцах і Чаромсе; было каля трохсот кніжак, якія праз нейкі час абменьваліся. Зарэгістраваных было каля шасцідзесяці чытачоў. Было шмат краёвай і савецкай прэсы. Рабіў я месячныя і гадавыя планы працы святліцы, узгадняныя з партыйнымі, прафсаюзнымі і вышэйшымі чыгуначнымі органамі. Вёў я журнал заняткаў, у якім пазначаў усе мерапрыемствы, што адбываліся ў святліцы. Была дошка абвестак і насценгазета, якую вяла моладзь з ЗМП; старшынёй быў Рыгор Зданоўскі, сын Аляксандра, а памагалі яму Валянціна Зюзя і іншыя. Выконвалі яны аздабленні пад розныя мерапрыемствы і за гэта я ім вельмі ўдзячны. Сакратар партарганізацыі і старшыня рабочага савета чыгуначнага адрэзка Нараўка свае абавязкі выконвалі ў грамадскім парадку з прычыны невялікай колькасці персаналу, але на станцыі Семяноўка гэтыя функцыі былі платныя. Варта прыгадаць, што работнікі нашага чыгуначнага адрэзка масава прымалі ўдзел у грамадскіх пачынах. Будавалі дарогу з Альхоўкі ў Масева, капалі прыдарожныя равы за Нараўкай, насупраць жыдоўскіх могілак — кіркута. Пры будове дарогі з Гайнаўкі ў Дубічы-Царкоўныя працавалі каля вёскі Ягаднікі. Шмат стрэлак было ўпарадкаваных грамадскім чынам. Таксама грамадскім чынам былі выкапаны катлаваны пад фундамент спажывецкай крамы, пабудаванай на чыгуначным грунце, якая служыць мясцоваму грамадству і па сённяшні дзень.

Яшчэ слоў крыху пра сябе. Займаючы маю пасаду і выконваючы шмат грамадскіх і службовых абавязкаў, трэба было належаць да партыі. Некаторыя працаўнікі папракалі, што ўся адміністрацыя разам з пуцяправодчыкамі належыць да партыі, а Уладзімір Клімюк выломліваецца. Было гэта на партыйным сходзе, які вёў сакратар павятовага камітэта з Гайнаўкі. Ён тактоўна спытаў, ці Клімюк дрэнна адносіцца да супрацоўнікаў — адказ быў, што не. А ці брыдкасловіць? — Таксама не. Ці злоўжывае алкаголем і патрабуе подкупаў? — Таксама не. Ці неяк пакрыўдзіў каго з вас? — Таксама не. Ці дапамагаў пісаць прашэнні ў вышэйшыя органы? — Так. Сакратар коратка расказаў маю біяграфію, дадаючы, што я ў 1953 годзе завочна скончыў Агульнаадукацыйны ліцэй для дарослых у Беластоку, у 1959 годзе завяршыў курсы і здаў экзамен на пасаду чыгуначнага ад'юнкта ў адміністрацыйна-эканамічнай службе, прайшоў культурна-асветнае абучэнне і працую за палову стаўкі. Да таго ж спытаў ён майго непасрэднага начальніка пра маю рэпутацыю; адказ быў пахвальны. Далей сакратар сказаў, што ў Польшчы нікога нельга прымушаць да ўступлення і магчыма, што спадар Клімюк уступіць у рады ПАРП у будучыні. Пра гэты эпізод з партыйнага сходу даведаўся я пазней. І ніхто ўжо больш не згадваў мне пра ўступленне ў партыю. Мы былі зладжаным рабочым калектывам, ніхто нікому не папракаў партыйнасці ці беспартыйнасці, веравызнання, не было ў нас ніякіх разладаў.

Пасля сарака пяці гадоў, дзесяці месяцаў і дзесяці дзён працы на чыгунцы развітаўся я з супрацоўнікамі сціплым пачастункам, а яны мне заспявалі „Сто лет” у здароўі і шчасці ды ўручылі мне падарунак — вялікі радыёпрыёмнік, які ў мяне займае пачэснае месца і прыгадвае шматгадовую працу на чыгунцы.

Мой тата Іосіф займаўся ў царскай Расіі на розных работах, пабываў у шматлікіх месцах — Масква, Урал, Астрахань, Адэса — і ваяваў у Асавецкай крэпасці ў 1915 годзе, адступаючы пасля ў Мінск, дзе ягоная часць была расфарміравана. Перажыў Кастрычніцкую рэвалюцыю і ў 1919 годзе вярнуўся ў родную Цісоўку. Сказаў мне пазней, ужо дарослому сыну: „Не пішыся ў ніякую партыю. Партыі і ўрады ў кожнай дзяржаве мяняюцца, пакідаючы людзям жыццёвыя беды. Кожную працу выконвай з замілаваннем і да кожнага — ад дзяцей да пажылых людзей — стаўся з любоўю. Не зайздросць матэрыяльнага багацця суседзям і іншым людзям. Шануй сям'ю. І дзякуй Богу за пражытыя ў радасцях і турботах гады”.

**Уладзімір КЛІМЮК,**
**Плянта, 28 лістапада 2010 года.**

**САРДЭЧНЫЯ ВІНШАВАННІ З НАГОДЫ 85-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ**
**паэту Барысу РУСКО**
**перадаюць „Ніва”, Віктар Швед і „белавежцы”.**

Барыс Руско

## Паралельныя светы

У люстраным пакоі
натуры
Свет убачыў уласнае
аблічча памножанае
ў бясконцасць.
Выгляд знявольвае розум.

## Шукаю

Прыход да іншага вымярэння
і існаванне ў ім,
шукаю ў зборы
станаў сквантаванай
натуры.

Шукаю,
быццам шукаў
вяршынь
у вечнай імгле
воблакаў.

## Капрыз

Усе дарогі вядуць
да жыцця.
А жыццё капрызам
рафінаванай натуры.

## Вершы як птушкі

Вершы як птушкі
звіваюць гнёзды
пад дахам,
у нішы,
на строме.
Не пытаюць аб дазвол.
Падарожнічаюць аўтастопам,
самалётамі,
шпацыруюць алеямі.
Прысутнічаюць на ўсіх
кантынентах.
Маюць характар.

(Пераклад з польскай мовы Віктара ШВЕДА)

Віктар Швед

## Кабылка Мілка

Мне помніцца Кабылка,
Якую звалі Мілкай,
Што бегала за маткай
Шустрым жарабяткам.
Пазней, васьмігадовы,
Малышка вясковы,
Карміліцу ўжо нашу
Пачаў вадзіць на пашу.
Па маім абавязку
Поўсць набірала бляску.
Мяне наша кабыла
Сардэчна палюбіла.
І не забыць ніколі:
Вярталіся мы з поля,
Кабылку гнаў галопам,
Як быццам збіўся з тропу,
І дасеў адразу
Крылатага Пегаса.
Кабылцы селі ногі,
Упала на дарогу.
Ўзнялася нечакана,
Чакала, аж я ўстану.
І на хрыбет я лоўка
Ўзабраўся Мілцы зноўку.
Быццам невінаўты.
Вяртаўся зноў дахаты.

4 ☞працяг

інцу з аўстра-венгерскай арміі за спяванне песень па-нямецку, які ў канчатковым выніку мучыўся згрызотамі сумлення і пахаваў працўніка, паўтараючы: «Я рускі, рускі...», на думку гледачоў, таксама гаворыць аб універсальных дылемах. Падымае, між іншым, пытанне аб беларускай самасвядомасці, ідэнтычнасці, і неабходнасці беларускіх выбараў. Рэжысёр пасля паказу не хаваў:

— Я павінен быў зрабіць гэты фільм, хоць я сумняваўся, ці павінен. Гэта фільм пра нашую, беларускую, рускасць, наколькі яна не маскальская.

## Выстава і дэбаты

Падчас фестывалю адбыўся вернісаж выставы «Albom.pl» — калекцыя ўнікальных фатаграфій з пачатку ХХ стагоддзя з польска-беларускага памежжа. У 2013 годзе стваральнікі выставы (Уршуля Дамброўская, Гжэгаж Дамброўскі і Рафал Сідэрскі) наведалі сем прымежных мясцовасцей — дзве ў Польшчы (Кляшчэлі і Гарадок) і пяць у Беларусі (Сапоцкін, Лунна, Воўпа, Ваўкавыск і Камянец), рэгіструючы амаль 2300 архіўных фатаграфій з прыватных калекцый 47 жыхароў. Аб праекце шырока мы пісалі ў «Ніве» неўзабаве пасля экспедыцыі аўтараў. Нагадаем, што самым вялікім яе адкрыццём сталі негатывы Юрыя Косткі, знойдзеныя на гарышчы ягонага дома ў Кляшчэлях. Ён фатаграфаваў сваё мястэчка на працягу паўстагоддзя. Аўтары праекта таксама натрапілі на адбіткі іншых правінцыйных фатографаў: Юсіфа Абраміцкага ў Гарадку, Бэркоўскага ў Сапоцкіне, Язерскага ў Ваўкавыску (імёны апошніх невядомыя). Перад выставай усе здымкі былі старанна тэхнічна апрацаваны. На


Выстава „Albom.pl"

выставе яны апраўлены ў рамкі, пасартаваныя — як сказаў нам Гжэгаж Дамброўскі — у адпаведнасці з ключом, які быў іх мастацка-эстэтычны сэнс. Фатаграфіі былі апублікаваны ў альбоме, тыраж якога ўжо практычна вычарпаны.

Тыдзень таму мы згадвалі пра вялікую падзею з нагоды «Усходу культуры — Іншага вымярэння», якой, несумненна, стала адкрыццё выставы «Пазбаўленне» ў галерэі «Арсенал» з мастакамі краін Усходняга партнёрства, у тым ліку з Беларусі. На наступны дзень былі цікавыя — нават па сваёй перфарматыўна-тэатралізаванай форме — дэбаты, прысвечаныя ў шырокім сэнсе пытанню аб міграцыі з Усходняй Еўропы. Такім чынам была спасылка на тую ж выставу, якая была прысвечана псіхалагічным, сацыяльным, эканамічным аспектам міграцыі. У дэбатах прынялі ўдзел артысты, што паказаліся на выставе, і куратары, у тым ліку рэзідэнткі «Арсенала» куратаркі з Мінска Вольга Рыбчынская і Ганна Самарская. У ходзе гутаркі выказана было меркаванне, што мастакі павінны таксама шукаць спосабаў расказу пра бежанцаў і імігрантаў, не толькі ў кантэксце іх адміністрацыйных і прававых або палітычных праблем. Было адзначана:

— З пункту гледжання псіхалагічнай падтрымкі вылучаюцца два тыпы мігрантаў. Тыя, хто былі выключаны са сваёй краіны і тыя, хто быў перамешчаны пры фармальных зменах межаў. Псіхолагі, што працуюць з людзьмі, якія апынуліся ў новым кантэксце, падкрэслілі становішча мігрантаў як нешта, што можа падштурхнуць іх да змен, што дае ім шмат новых магчымасцей. На жаль, без падтрымкі дзяржаўных устаноў такія магчымасці ніколі не з'явяцца ў сувязі з тым, што гэта людзі выкараненыя, часта пазбаўленыя сваёй маёмасці, пазбаўленыя сацыяльнага кантэксту, у якім яны знаходзіліся. У гэтых адносінах, без дапамогі міжнародных арганізацый і дзяржавы, мігрант заўсёды будзе кімсьці выключаным.

Удзельнікі дэбатаў звярталі ўвагу на выкарыстанне ў кантэксце эмігрантаў і мігрантаў ваеннай мовы: генацыд, абложаная крэпасць...:

— Сёння ў Заходняй Еўропе мы маем справу не з ворагам звонку, якім з'яўляецца замежная дзяржава, але якраз з мігрантамі. Гэта бяззбройныя людзі, уціхаміраныя, якія на самой справе не ўяўляюць вялікай ваеннай пагрозы для грамадства, якое іх прымае. Каму патрэбная такая ваенная лексіка? Дзяржаве? Сярэдняму класу? Чаму мова, на якой гаворыцца пра імігрантаў, з'яўляецца мовай выключэння? Чаму мы ў іх бачым ворагаў, па тэрміналогіі вайны? У гэтай мове паказваецца наша стаўленне да мігрантаў.

Падчас фестывалю — асабліва ў беларускім кантэксце — важнай падзеяй былі дэбаты «Станіслаў Булак-Балаховіч — ватажка ці герой?», сарганізаваныя Галерэяй Сляндзінскіх. Была гэта спроба наблізіць асобу генерала сярэднім беластачанам, успамінаючы аб ягоных заслугах, але і міфах, і легендах, якімі аброс. На жаль, дэбаты не карысталіся вялікай цікавасцю. Прынамсі не такой вялікай, як канчаючы сёлетні «Усход культуры — Іншае вымярэнне» дзень пазней (31 жніўня) оперна-танцавальны паказ перад ратушай «Каралева фей», спалучэнне барочнай паў-оперы з сучасным танцам, аднак, не маючым нічога агульнага з ідэяй фестывалю, а асабліва з сёлетнім ягоным адрознікам — беларушчынай.

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА




Ёсць у Еўропе краіна, дзе цяжка знайсці хоць бы які негатыў. Здаецца, усё там па-разумнаму, усё дасканала — і банкі, і гадзіннікі, і міралюбная нейтральная палітыка, дзякуючы якой жывецца тамтэйшым жыхарам добра і спакойна. Завецца тая краіна Швейцарыяй, і, канешне, прыцягвае сваім заможным жыццём выхадцаў з іншых рэгіёнаў. І сярод такіх новых швейцарцаў, зразумела, ёсць і беларусы.

Да гонару швейцарскіх беларусаў можна сказаць тое, што, нягледзячы на ўладкаванне свайго жыцця ў краіне альпійскіх склонаў, яны не забываюцца ні на сваю культуру, ні на мову. Сведчаннем гэтага з'яўляецца сайт у інтэрнэце, які месціцца па адрасе www.belswiss.org і належыць Асацыяцыі беларусаў у Швейцарыі.

Калі цікаўны карыстальнік зазірне на даны сайт, то перад яго вачыма адкрыецца даволі просценькае, але прыемнага выгляду выяўленне, дзе пераважаюць светлыя колеры. Уверсе пад назвай сайта і арганізацыі пазначана, што гэта інфармацыйны партал беларусаў усяе Гельвецыі. Для тых, хто не ведае, Гельвецыя — лацінская назва Швейцарыі, якая даволі часта выкарыстоўваецца, каб падкрэсліць канфедэратыўны пачатак швейцарскай дзяржавы.

Сайт Асацыяцыі размешчаны на платформе Wordpress і падзелены на дзве часткі. На галоўнай старонцы ў левай частцы месцяцца невялікія тэксты аб падзеях, што тычацца швейцарскай суполкі беларусаў. Паведамленняў там не надта многа. Іх пачатак датуецца мінулагоднім верасням. Апошняе сёлетняе паведамленне — ад 23 чэрвеня. У ім распавядаецца пра агульны сход сяброў Асацыяцыі.

Той тэкст, а таксама нешматлікія фотаздымкі даюць некаторае ўяўленне аб тым, чым жыве беларуская грамада ў Швейцарыі. Так, на фотаздымках мы можам убачыць невялікую колькасць людзей, што сядзяць за адным сталом, дзе стаіць чырвона-зялёны сцяжок, а на сцяне вісіць афіцыйны герб Беларусі. Такім чынам бачна, што Асацыяцыя беларусаў у Швейцарыі мае цесныя сувязі з беларускім пасольствам. Зважаючы на тое, што беларуская эміграцыя ў Еўропе збольшага ўважае за сваю сімволіку бел-чырвона-белы сцяг і герб „Пагоню", прыходзіш да высновы, што сябры Асацыяцыі па меншай меры не засяроджваюць асаблівай увагі на такіх момантах.

Разам з тым прыемна, што беларуская мова для іх не чужая, і яны рупяцца дзеля захавання роднага слова. Сведчаннем гэтага з'яўляецца калекцыя фотаздымкаў пра Дзень беларускага пісьменства ў Швейцарыі. І найбольш дзіўнае тое, што праходзіў ён у памяшканні беларускага пасольства, бо звычайна прадстаўніцтвы Рэспублікі Беларусь за мяжой не надта шчыруюць на ніве захавання і папулярызацыі беларускай мовы.

Здзіўленне ў адносінах да тамтэйшай беларускай дыпламатычнай місіі ўзрастае і ад расповеду „Ніхто не пакладзе кветкі на магілу..." аўтарства часовага паверанага ў справах Рэспублікі Беларусь у Швейцарыі Андрэя Кулажанкі. Там распавядаецца пра княгіню Марыю Магдалену Радзівіл, дзякуючы фінансавай падтрымцы якой, як сведчыць Кулажанка, калісьці пабачыў свет зборнік Максіма Багдановіча „Вянок". Паводле аўтара, ён усклаў на магілу княгіні кветкі бел-чырвона-белага колеру.

Сайт налічвае тры моўныя версіі — беларускую, рускую і нямецкую. Прычым не ўсе артыкулы сайта маюцца ў кожнай з іх.

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

Дата з Календара

„Слава Оршы ўжо не згорша"

# 500 гадоў з дня бітвы пад ОРШАЙ

Перамога ў бітве пад Оршай — адна з самых славутых старонак у айчыннай гісторыі. Добра памятаю з якой нечаканасцю адкрывалі мы для сябе гэтую старонку ў канцы васьмідзясятых гадоў мінулага стагоддзя, як былі здзіўлены маштабам і сутнасцю гэтай падзеі. І як масава пачыналася ў Беларусі святкаванне сапраўднага Дня беларускай вайсковай славы. У сённяшняй РБ святкаванне гэтага дня непажаданае, улада робіць усё, каб замаўчаць праўду гісторыі і перашкодзіць грамадскасці ўшанаваць славутых продкаў.

Бітва пад Оршай ля рэчкі Крапіўны — найбуйнейшая бітва вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім Княствам Літоўскім 1512-1522 гадоў. Аршанская бітва ўвогуле — адна з найбуйнейшых бітваў на тэрыторыі Еўропы ў пачатку XVI стагоддзя. Перамога ў ёй дала Вялікаму Княству Літоўскаму магчымасць вярнуць захопленыя супраціўнікам Дуброўну, Мсціслаў і Крычаў.

Пасля некалькіх паражэнняў у жніўні (сутычкі на рэках Бярэзіне, Бабры і Друці) маскоўскія военачальнікі адвялі войскі на левы бераг Дняпра і спыніліся паміж Оршай і Дуброўнай на ўзгорках каля вёсак Пугайлава і Рукліна, на рэчцы Крапіўне. Войска ВКЛ падышло да Дняпра 7 верасня каля Оршы, і князь Канстанцін Астрожскі, не зважаючы на сілы бакоў, пастанавіў даць бітву. Каб не перапраўляцца пад абстрэлам, Астрожскі правёў дэманстрацыйны манеўр з перапраўай цераз Дняпро на вачах маскоўцаў некалькіх тысяч коннікаў. Тым часам асноўная частка войска ўвечары была перасунута віцебскай дарогай на поўнач, а ўночы на 8 верасня ўпотай пераправілася на левы бераг. Пасля гэтага войска сканцэнтравалася каля вёскі Пашына. Тут і адбылася вырашальная бітва.

Маскоўскі ваявода Чаляднін даведаўся пра пераправу са спазненнем і не згадзіўся з прапановай сваіх ваяводаў атакаваць ужо пераправўленую частку войска ВКЛ. Чаляднін спадзяваўся на вялікую колькасную перавагу і жадаў бітвы адразу з усім войскам Астрожскага. Бітва пачалася ў полі на беразе Дняпра ў тры кіламетры ўздоўж ракі, за 200-400 метраў ад берага ў першай фазе бою і за тры з паловай кіламетра ў другой фазе, за пяць вёрстаў ад Оршы раніцай 8 верасня. Войска ВКЛ на сваім левым крыле адбіла атаку і перайшло ў контратаку, атрымаўшы падмацаванне. Самаўпэўненасць маскоўцаў, якія мелі трохразовую перавагу, падвяла іх. Спроба абысці войска ВКЛ і наляцець з тылу не ўдалася, і пасля паўдня маскоўскія ваяводы кінулі галоўныя сілы. Сеча дасягнула найвышэйшага напалу.

Удалым манеўрам пад выглядам адступлення Астрожскі ўцягнуў супраціўніка ў пагоню і вывеў яго пад агонь сваіх замаскаваных гармат. Чаляднін кінуў у пераслед усе свае сілы. Але выявілася, што ўцёкі конніцы ВКЛ былі загадзя ўмоўленай хітрасцю, маскоўцы трапілі на стралкова-артылерыйскую засаду. Шматразовыя залпы гармат і пішчаляў нанеслі ўдары па палках Булгакава-Голіцы і ўшчэнт разбілі іх, частка вояроў трапіла ў палон, рэшта кінулася наўцёкі. Таксама былі разгромлены і палкі Чаляднiна. У маскоўскім войску пачалася паніка, многія з уцекачоў загінулі ў Дняпры і Крапіўне. Заціты пераслед і жорсткае вынішчэнне ўцекачоў цягнулася да захаду сонца, а часам і назаўтра. ВКЛ перамагло! Маскоўская раць страціла забітымі каля 40 тысяч вояроў, страты нашых былі намнога меншыя. Пасля бітвы пад Оршай да 1518 года не адбывалася ўварвання на Беларусь маскоўскіх войскаў.

Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# ПРЫЙШЛІ, ПРЫБРАЛІ І ЎСЁ

— Гляньце, мабыць, беластоцкія прыехалі, — прыклеіліся да акна касіркі крынскага банка.

Вулічныя падзеі на хвіліну адвярнулі іх увагу ад чакаючых у чарзе кліентаў. Такога яшчэ свет не бачыў, каб па руінах, па кучы друзу ў вясельнай сукенцы скакаць.

— Віншую ідэі, — звяртаюся да маладажонаў.

— Мы толькі праездам, а ўвогуле, што гэта за камяні?

— Сапраўды не ведаеце? — апускаю сківіцу ў здзіўленні. — Гэта ж руіны найстарэйшай у Крынках Вялікай сінагогі.

Вялікая, тады яшчэ драўляная, сінагога ўзнікла у другой палове сямнаццатага стагоддзя. Неўзабаве, у 1687 годзе, стала яна месцам з'езда Сейма літоўскіх жыдоў. Двухпавярховы мураваны, класіцыстычны будынак паўстаў у 1756 годзе, два гады пасля вялікага пажару мястэчка. Тады Крынкі былі другой па велічыні, зараз пасля гродзенскай, жыдоўскай гмінай. Сінагогу пабудавалі з чэсаных гранітных блокаў на вапнавым растворы. Вялікія валуны каціл па спецыяльна нарыхтаваных доўгіх на некалькі дзясяткаў кіламетраў тратуарах. Разам з прасторнымі сенцамі і двума бабінцамі яе аб'ём дасягаў 7400 кубаметраў. Атынкаваны, на плане прамавугольніка з двухскатным дахам будынак быў звернуты фронтам да рынку. Паўтара стагоддзя пазней, у рэвалюцыйных хваляваннях 1905 года ў сценах Вялікай сінагогі праходзілі палітычныя мітынгі.

Першае паражэнне крынская „Бэтг га кнэсэт" пацярпела ў час Другой сусветнай вайны. Тады нямецкія акупанты пераўтварылі яе ў танкавую рамонтную майстэрню. У 1944 годзе фашысты нанеслі чарговыя знішчэнні. Дзякуючы моцнай канструкцыі будынак пратрымаў спробу яго ўзарвання.

У пасляваенны перыяд планавалася рэканструкцыя Вялікай сінагогі з мэтай пераўтварэння яе ў кінатэатр. Замест таго ў 1971 годзе дайшло да канчатковага разбурэння. Блізкія суседзі Вялікай сінагогі, прысутныя ў час хепенінгу „Рэанімацыя", наладжаным Фондам „Віла Сакрата", успамінаюць:

— Спярша ўзрыўчатку заклалі адступаючыя немцы, — гаворыць 82-гадовы спадар Арсеній. — Гэта было летам 1944 года. Астатняе папрыбіралі мы. У 1971 г. прыехала войска, сапёры, усё заслонілі брызентавай пакрышкай. Два тыдні узрыўчатку падкладалі. Там, усярэдзіне, яшчэ сцяна была. Усе сцены стаялі, праўда, падпёртыя падгнілымі слупамі; усё ўзарвалі. Войска і міліцыянты акружылі муры. Пільнавалі, каб ніхто не зблізкаўся. Узрыў прайшоў спакойна. Сінагога падышла ўверх і садзілася. Адзін камень папаў у мой агарод. Баяўся я, што ў хату пападзе. Пасля палкоўнік падаслаў трох жаўнераў і мы ўчацвярых ледзь гэты камень выкінулі. Толькі яма засталася вялікая, быццам снарадная. Усё ляцела па хатах, па гумне. У час выбуху людзі хаваліся па хатах. Потым павылазілі, прыйшлі паглядзець. Казалі, што добра зрабілі. Тут кругом дзеці бегалі, у гандлёвыя чацвяргі коней з вазамі ставілі. Было небяспечна. А так і парадак, і пару грошай у кішэні. Друзу было сапраўды шмат. Гміна плаціла за яго вываз. Забіралі фурманкамі — за Крынкі, у лес, ямы, равы.

Натоўп на мурах сінагогі

Тады нейкі знаўца сцвердзіў, што будынак не быў здатны да рамонту. Сёння напэўна зрабілі б рамонт.

Праз столькі гадоў ніхто не парадкаваў месца па бажніцы, хаця яно ў самым сэрцы мястэчка.

— Ніколі не дазвалялі. Я сам хацеў купіць той пляц, але заўсёды казалі, што гэта не на продаж. Адзін банк дазволілі паставіць. Усё астатняе належыць да бажніцы.

... А тады, як і сёння, прыйшлі, прыбралі і ўсё.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**

Інфармацыя аб гісторыі Вялікай сінагогі паходзіць з публікацыі Томаша Вісьнеўскага „Бажніцы Беласточчыны" (T. Wiśniewski, *Bożnice Białostocczyzny*, Białostockie Wydawnictwo „David", 1992).

1 ☞ працяг

# Рэанімацыя або Аднаўленне памяці

стаючыя з адной рэлігіі, патрапяць прывесці да такога велізарнага грамадскага разрыву. Калі я гляджу ў мінулае такіх зямель як гэтая, думаю, што ім было нашмат цяжэй, чым нам, але яны давалі сабе рады, а мы губляем найбольшую каштоўнасць: уменне мець зносіны, весці дыялог, і вельмі над гэтым смуткую.

## Гербарый у антыкварнай краме

Міраслаў Балка праз мікрафон, установлены на акраіне былой Вялікай сінагогі, тлумачыць:

— Тое, што вы выпрабавалі, гэта завяршэнне працэсу, які адбыўся тут, калі мы пачалі працаваць з камандай добраахвотнікаў з панядзелка. Інтэнсіўна працавалі ў панядзелак, аўторак, сераду, і зараз прыйшоў час, каб святкаваць, ушаноўваць нашу працу. Я ведаў, што праектам будзе праца ў калектыве, не пошукі мастацкага эга, але шуканне зносін і супрацоўніцтва з групай маладых людзей з рэгіёна (...). Гэты праект называецца «Вялікая сінагога — Рэанімацыя» і гэтай рэанімацыяй было аднаўленне дыхання прасторы, цыркуляцыі гэтаму месцу, а таксама спроба вярнуць цэнтральную нервовую сістэму гэтаму месцу. Стварэнне месца, якое патэнцыйна будзе жыць.

Моніка Шэўчык, куратарка, кіраўнік беластоцкай галерэі «Арсенал», ціха падзялілася з журналістамі першымі развагамі:

— Гэты страляючы ўверх фантан вельмі сімвалічны, можна аб ім думаць на многіх узроўнях, як пра ачышчэнне, але і сяўбу. Гэтае прыводжанне гледачоў да эмоцыі — вельмі асвяжальнае.

Праз гадзіну ўсе мы ідзем у антыкварны магазін. Міністр Амільяноўская працірае вочы ў здзіўленні, што такі існуе і тут, з такой багатай калекцыяй кніг. У рамках сорак раслін, у тым ліку зёлкі, абапертыя на кнігах на паліцах і на падлозе. Перад антыкварным магазінам чутны беларускія песні ў выкананні маладых беларусак і Юркі Асенніка. На стале перад антыкварыятам — хлеб і віно.

— Добра, што хтось высек гэтае пустазелле. Шлях на рынак, па меншай меры, бачны, — кажа «Ніве» пажылы чалавек, які прыйшоў з усімі з-пад плота насупраць былой сінагогі.

Міраслаў Балка і тут запэўнівае:

— Наш план не сканчаецца з гэтым дзеяннем. У нас з Лявонам і Фондам «Віла Сакрата» ёсць больш амбітны план. Гэтае віднае дзеянне: Міраслаў Балка, дружына, «Віла Сакрата», якім было ўвядзенне струі вады, гэта не канец праекта.

Лявон Тарасэвіч (фонд«Віла Сакрата»):

— Хочам каб на месцы сінагогі былі праведзеныя археалагічныя раскопкі і на гэтым месцы ўзнік фантан, які запрацуе ў жыдоўскія святы.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

# Адгаданка

Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — румынскую пагаворку.

1. горад на Дзвіне на Смаленшчыне = 23 _ 24 _ 19 _ 11 _ 21 _;
2. запруда = 7 _ 8 _ 12 _ 13 _;
3. спораная расліна ў... Цімаха = 4 _ 3 _ 1 _;
4. частка рачной даліны, якая затапляецца ў час разліву = 10 _ 15 _ 16 _ 17 _ 18 _;
5. абрадавы мёд, разведзены вадой = 9 _ 22 _ 14 _ 20 _;
6. музычны гук = 2 _ 6 _ 5 _.

(ш)

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | | | | | |
| | | | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
| | | | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 |
| | | | | 21 | 22 | 23 | 24 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 34 нумара**

Маналог, дзверы, хамут, Авідзій, зарыва, мыла, камін, езуіт, шайба, пілот, мох, Дэрбі, душа, Ула.

Рашэнне: **З разумнымі дзеткамі і без грошай хораша**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі**: 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс**: (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
*Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.*
**Галоўны рэдактар**: Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара**: Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар**: Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі"**: Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты**: Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя**: Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzowa „Niwy" prowadzą**: kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00]. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy" w 2014 roku — 52.
**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa"**, BANK PEKAO S.A. O/Białystok 38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 000 egz.

# 14.09 — 20.09

**(22.03. — 20.04.)** 14.09. пераканаешся, што варта было старацца на працы. Поспехі дададуць табе самаўпэўненасці і аптымізму. Але 14 і 15.09. будзь вельмі асцярожным — цікуючь небяспечныя здарэнні і няёмкія сітуацыі; трымай нервы на павадку! Даўно забытыя падзеі мінулага зноў прыгадаюць пра сябе. Магчымыя сустрэчы з даўнімі знаёмымі. Што абяцаў, выканай.

**(21.04. — 21.05.)** 13-17.09. вырашыш любоўныя дылемы. Будзеш баявіты, наладзіш новае, шматабяцальнае знаёмства. У другой палове верасня настане ў цябе час сур'ёзных дэкларацый. Добра задбаеш аб сваю красу, можаш атрымаць незвычайную прапанову, але добра ўсё абдумай ці варта кінуцца на штосьці рызыкоўнае. Магчымыя нечаканыя выдаткі, але і шанцы на дадатковы заробак.

**(22.05. — 22.06.)** У выпадку новага, шматабяцальнага знаёмства не будзь нахабным і не рабі далёкіх планаў. У сям'і забудзеш пра тое, што было благім, засяродзішся на добрых аспектах. 17-18.09. можаш падацца на лячэбныя працэдуры, аперацыі. 17.09. інвестуй. 14-15.09. старайся не шакаваць і не ламаць прынцыпаў, бо наробіш сабе ворагаў.

**(23.06. — 23.07.)** 14-16.09. узмоцняцца твае пачуцці ў пары; табе спадабаецца, што партнёр канкрэтны і ведае чаго хоча. Будзе і шчопаць зайздрасці! Удасца пагасіць усе сямейныя канфлікты. Марс падштурхне цябе да большага высілку — перастанеш абмінаць трэнажорню, а прынамсі пачнеш даўжэй шпацыраваць; ды не парывайся на зашмат пад уплывам энтузіязму (пільнуй суставаў!). Можа, зменіш прычоску? На працы будзеш сварлівы і імпульсіўны, але не прасі прабачэння, калі рацыя на тваім баку; не збочвай са сваёй дарогі.

**(24.07. — 23.08.)** Можа, пазнаёмішся з кімсьці вельмі цікавым, але будзе з гэтага больш усяго толькі сяброўства. Дома агорнеш праблемы, дапільнуеш фармальнасцей, без цяжкасцей зробіш генеральныя парадкі. Можаш пасядзець на дыеце. На працы не спяшайся, адрабляй хвасты, папраўляй памылкі. Неўзабаве атрымаеш карысную прапанову.

**(24.08. — 23.09.)** 14-16.09. паявяцца нагоды для новага знаёмства. Але магчымыя праблемы са сном 15-19.09. Дома чакае мілы, але і праблематычны балаган. Найбліжэйшыя будуць патрабаваць тваёй падтрымкі, апекі, не шкадуй ім гэтага. У другой палове месяца ў кімсьці моцна расчаруешся, але не трымай да яго прэтэнзіі. Паашчаджай — неўзабаве чакаюць цябе непрадбачаныя, важныя большыя выдаткі.

**(24.09. — 23.10.)** Можаш смела брацца за фінансавыя выклікі. Паправіцца стан твайго рахунку. Калі шукаеш працу, актыўна высылай свае CV; інвеструй у свой уласны развой — кожная дадатковая ўмеласць павялічыць твае шанцы. Асабліва з 19.09. пачне стабілізавацца твая фінансавая сітуацыя. І ў пачуццях будзе спакойна.

**(24.10. — 22.11.)** 14-16.09. пачуцці ўзмоцняцца, будзе жарсна і моцна. Калі не маеш пары, будзеш лакомым кусочкам для іншых, ды не інвестуй у пачуцці на злом галавы. Добры кампраміс дома. Адкрыйся на кожны, нават найбольш неканвенцыйны спосаб лячэння, асабліва калі пакутуеш болямі страўніка ці невядомага паходжання. Здзейсняцца твае прафесійныя планы, нават калі яны яшчэ навырост.

**(23.11. — 22.12.)** Будзе біць з цябе гейзер энергіі, рашэнні будуць хуткія і трапныя. Без цяжкасцей выйграеш кожную бітву. І не дасі партнёру ўзлазіць на тваю галаву! А блізкія пакажуць табе шмат зразумення. Ты таксама акажы шмат зразумення блізкім, асабліва 14-16.09. Талент да зарабляння грошай, але і іх выдавання.

**(23.12. — 20.01.)** Стабілізацыя, пачуццё бяспекі, матэрыяльны камфорт. Добры час пачынаць доўгатэрміновыя мерапрыемствы. Удачы на працы, вера ва ўласныя сілы. Да 16.09. асабліва добра ў пары. Хаця 19-20.09. магчымая гайданка настрояў.

**(21.01. — 19.02.)** Пераканаешся ў тым, што старыя сябры не падводзяць. Шчырасць будзе найважнейшым прынцыпам вашых адносін. На працы будзеш мець магутную сілу пераканання. Але 14-18.09. будзеш прымушаны заплаціць, прытым нямала, за пару памылак.

**(20.02. — 21.03.)** Паправіцца настрой. Пераканаешся, што не варта працягваць справы і толькі планаваць. Не дзялі воласа на чатыры! Свой крытыцызм і патрэбу дзеяння выкарыстай лепш у размовах з чыноўнікамі, а не дома. Шукай дзіры на рабоце, а адкрыеш такое, што цябе міла задзівіць. 14-15.09. не выдай грошай на абы-што. Зоркі падштурхнуць цябе да рашучых дзеянняў і рэалізацыі сваіх амбіцый.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Курган


Курган з боку Брушкоўшчыны

У Макаўцы злажу з аўтобуса і кірую-ся ў бок Рыбакоў. Недзе ў свеце людзі ходзяць па шаўкавістай зялёнай траўцы, нібы па мяккім дыване, збіваючы бліскучыя кропелькі расы, і слухаюць рознагалосую песню птушак. Лёгкі ветрык гойдае галінкі дрэў, шапаціць лісце, журчыць ручаёк. Сонейка сагравае ўсё наваколле. Водар кветак запаўняе паветра. Зялёным полымем гараць лугі. У кустоўі свішча салавей. Ля дарогі ляціць матылёк светла-жоўтага колеру. Паветра напоўнена пахам чаромхі. Над духмянымі кветкамі гудуць працавітыя пчолы. Уверсе жаваранкі і белыя воблачкі. Плывуць паволі, амаль не плывуць. Лёгкі ветрык прыносіць пах першых пракосаў. І на душы так прыемна, светла...

Гэта недзе ў свеце. А на дарозе з Макаўкі ў Рыбакі асфальт. І сонейка таксама сагравае ўсё наваколле. Паветра напоўнена пахам асфальту. Усюды ціш. Белыя воблачкі плывуць паволі, амаль не плывуць. Мяккі асфальтавы дыван намагаецца прысабечыць падэшвы маіх туфляў, прыходзіцца сходзіць на яго абочыну і збіваць пылок з засохлых раслінак. Недзе ў свеце ўзнёсла, паэтычна, а на асфальтавай дарозе з Макаўкі ў Рыбакі — наадварот, непаэтычна. Такую дарогу, здаецца, немагчыма апісаць прыёмамі, якімі карыстаецца паэзія. Такая дарога здаецца быць бяздушнай, непрыстойнай, амаль вульгарнай. І магчыма, што такую дарогу выпадала б апісваць вульгарнай лексікай.

Гэтай дарогай іду з мусу, а ў думках у мяне іншая дарога, якою калісь з Рыбакоў было бліжэй у Нарву, чым пакінутай для нашага часу асфальтоўкай цераз Гайдукоўшчыну і Макаўку. Была гэта дарога, якая пралягала каля Кургана, там уброд перасякалася раку і праязджаючы непадалёк каталіцкіх могілак уязджалася каля касцёла ў не так даўні горад. І зараз, калі ўжо даўжэйшы час сонейка сагравае ўсё навакольнае наваколле, калі вады ў рацэ менш і мяльчэйшы даўні брод, хацелася б прайсці па той дарозе, па якой мо з шэсцьдзесят гадоў таму падарожнічаў я ў жалезняку. Перасячэнню ж броду спадарожнічала ўзбагачэнне арганізму адрэналінам, тым хваляваннем, якое пакідае знакавы след у памяці. Але не маю ўпэўненасці, ці тая дарога ўброд захавалася па сённяшні час.

У Рыбаках заходжу да брата. А на ягоным панадворку поўна ўсялякага маладога пакалення, якое ў канікулы звалілася ў вёску — гэта не толькі братава радня, але і тае радні ўсялякае сяброўства. Няма часу на даўжэйшую размову пра жыццёбыццё; пытаю брата пра колішнюю дарогу. А была яна, адказвае ён, вось адсюль яна выходзіла, дзе суседава хата цяпер стаіць. А дарогі да Кургана цяпер ужо няма? — непакоюся я. Яна то ёсць, цераз Цімахі, але да рэчкі там ужо доступу няма, здаўна тудою ніхто не ездзіць, зарасло ўсё; і пераезду ўжо не знойдзеш.

З маёй надзеі на хаця б квант адрэналіну атрымаўся пшык. І так, павесіўшы нос, паплёўся я ў бок Кардона. У лесе, у Лядскай пушчы, былі калісь расхадныя дарогі: адна ў Парослае, якое ад прозвішчаў некалькіх тамашніх сем'яў называлі Харашэўскімі, а другая ў Граматнае, якое зноў называлі Сянкевічамі. Калісь гэтыя лясныя грунтавыя, значыць балоцістыя, дарогі былі больш-менш аднолькава раз'езджаныя вазамі, зараз дарога ў Парослае беспярашкодна зарастае ўсялякай зеленню. Затое дарога ў Граматнае высыпаная жвірам і па ёй адбываецца кволы транспарт у абедзве згаданыя мясцовасці.

Граматнае, гэта па сутнасці не вёска ў агульным гэтага слова значэнні, толькі некалькі раскіданых на акраіне лесу хутароў. Даўней, яшчэ паўвеку таму, дарога з Рыбакоў у Кардон у вобрубе Граматнага была паслядоўнасцю вялікіх калюжын, а з самога Граматнага да кладкі і броду на рэчцы Нараўцы трэба было нават хадзіць па жэрдках плота, якім яна была абгароджана. Зараз там роўненькая як стол жвіроўка. У Граматным, наколькі мая памяць сягае, заўсёды пры дарозе быў учэплены даволі вялікі і брахлівы сабака, якога трэба было мінаць з узбуйненым адрэналінам, быццам перапраўляючыся цераз невядомы брод.


Кладка каля Парослага

Побач месца, дзе калісь была кладка ў Кардон, вадапой, які зараз выконвае таксама задачу байдарачнай прыстані. Побач пабудаваная паветка са сталом, дзе можна прысесці для адпачынку. Кладкі ўжо там няма ды і не надта далёкі брод паволі знікае з краявіду, зарастаючы кустоўем. Быў гэта даволі мелкі брод, вада там была празрыстая і яшчэ ў спёку 1950-х гадоў халадзіўся я тою вадзічкаю не толькі звонку, але і ўталяў смагу, папіваючы яе проста з рэчкі; недалёка была сенажаць, дзе я засвойваў азы сенавання.

Пазней быў там пабудаваны драўляны мост, па якім ехалася не без хвалявання. А вось сёлета паказаўся мне там зусім новы пейзаж — размашысты новы мост з бетону і сталі, які злучае два берагі даволі кволай там рэчкі Нараўкі. Калісь, калі шмат народу вывозіла сена цераз рэчку ў даволі адтуль адлеглыя вёскі, як Рэпіскі, Новы Корнін ці Ліпіны, коні натужліва выцягалі нагружаныя сенам вазы з броду на бераг. Цяпер мала хто там збірае сена і той цяперашні мост па-над хвалямі няскошаных траў, па якім зараз мала хто ездзіць з Сянкевічаў і Харашэўскіх у Лешукі, паказваецца нейкім футурыстычным аб'ектам, нейкай вельмі смелай праекцыяй у будучыню.

З гэтага моста відаць і крыху мінуўшчыны. Менавіта рэчышча Нараўкі ў абодвух напрамках адтуль выпрастанае, а старое рэчышча па краях поймы ўжо па сутнасці зарасло. Гісторык і этнограф Павел Баброўскі, пляменнік славутага славіста Міхала Баброўскага, народжанага ў Вульцы-Выганоўскай, у скурупулёзным апісанні Гродзенскай губерні з 1863 года так характарызаваў рэчку Нараўку: „Река Наревка, по весьма выгодному направленію въ Беловежской пуще, разделяя ея на две равныя части, имееть особое значеніе, по сплаву отъ Беловежа леса въ Наревъ и далее по р. Висле за границу. По ней ходять плоты на протяженіи 35 верст. Компанія Бугенгагена употребила до 35000 руб. на расчистку русла этой и другихъ рекъ Беловежской пущи и темь устранила затрудненія въ сплаве". Адбылася гэтая расчистка з рачных звілін у палове XIX стагоддзя.

Хаця зараз мала хто збірае там з поймаў Нараўкі сена, аднак захавалася грунтавая дарожка наўсцяж рэчкі, па якой калісь фурманкі даязджалі да тадышняга пераезда, а мне ў сезон прыходзілася хадзіць на сенажаць; падаўся я па той дарозе. Так як і каля Граматнага, і каля Парослага знікла кладка, якая злучала гэтую невялікую мясціну з Лешукамі. Але каля сотні метраў далей пабачыў я іншую кладку з трох, бадай асінавых, ствалоў. Недалёка зграбаў сена сусед, які на маё здзіўленне, навошта там кладка, адказаў, што гэта Харашэўскія палажылі яе, каб выгадна пераходзіць на другі бераг дзеля рыбалкі. Такім вось чынам захаваўся на рэчцы Нараўцы фрагмент колішняга краявіду...

Ды і сусед прызнаўся, што ён даследаваў змены мясцовага надрэчнага ландшафту. Менавіта праехаўся ён на трактары ў напрамку Капітаншчыны, намагаючыся знайсці брод, які калісь злучаў ляшуцкія і ляўкоўскія хутары ды тамашнія сенажаці з Лядскай пушчай; на жаль, таго броду ўжо не ўдалося яму знайсці...

А мне вось вярэдзіў душу той згаданы раней Курган. Рашыў я на яго глянуць з іншага боку рэчкі Нарвы. З Рыбакоў ва ўрочышча Кудак пракладзена цераз рэчку Нарву кладка, але яе насціл не з традыцыйных падоўжных дыляў ці ствалоў, але з паложаных на тых ствалах папярочных дошак — гэта дзеля выгады старэйшых пілігрымаў у тамашні скіт. Па той кладцы перайшоў я ў Адрынкі і Брушкоўшчыну. З Брушкоўшчыны павярнуў я ў грунтавую дарогу, што выходзіць на сенажаці, мяркуючы, што яна праляжа ўздоўж ракі некуды насупраць Кургана. Спярша так было, а пасля двухсот-трохсот метраў тая дарога абарвалася ў няскошаных травах, якія далей чаргаваліся са скошанымі ўчасткамі. Найсырэйшыя сенажаці людзі пакінулі на волю лёсу і яны зараслі высокай асакой. Аднак не пакінулі тых балот жывёлы, пратоптваючы тудою свае дарогі, па якіх удалося мне дабрацца да грудка, што насупраць Кургана — парослага дрэвамі крутога ўзгорка над рэчкай Нарвай; заРэчча Кургана зарасло травастоем і ніякая даўняя дарога там сапраўды не захавалася.

Даведнік так характарызуе гэты ландшафтны аб'ект: „Курган, насып над магілай, звычайна з зямлі, часам з камянёў і зямлі. Звычай хаваць нябожчыка ў курганае з'явіўся каля 4-3 тысячагоддзя да нашай эры. Асноўная маса курганных могільнікаў належыць да канца 1-га — пачатку 2-га тысячагоддзя. Ёсць курганныя насыпы часоў позняга Сярэднявякоўя. Найбольш распаўсюджаныя сюжэты паданняў пра курганы — у іх пахаваныя воіны-асілкі, закапаныя скарбы, з'яўляецца агонь. З кургана з'язджае вершнік на белым кані або збягае белы бык".

Курганом згаданы ўзгорак названы з майго боку, з усходу. А ўжо ў нарваўскіх сайтах, з захаду, ён называецца інакш: „Nasyp ziemny zwany Kuraszewo, znajdował się w odległości półtorej wiorsty w górę Narwi, na jej lewym brzegu". Слоўнік Каралеўства Польскага: „O półtorej wiorsty od mstka w górę rz. Narwi, na lewym brzegu, nasyp zwany „Kuraszewo", dawne horodyszcze, prawdopodobnie Jadźwingów". Пра яго калісь пісаў і аўтарытэтны даследчык мясцовай даўніны Ежы Вісьнеўскі: „Nieliczna drobna szlachta i bojarzy ruscy zamieszkiwali niewiele wsi. Wśród nich byli potomkowie bojarów putnych, dlatego też ich wsie głównie skupiają się koło grodów. Koło Bielska — Hryniewicze, Bańki i Saki, koło Brańska — Kiersnowo, Poletyły i Szumki, koło Drohiczyna — Putkowice i Tąkiele, koło Suraża — Chodory, Szerenosy, Zimnochy, Borowskie, Makary, Kościany, Ostasze i Horodniany, koło Mielnika — Moszczona. Wsie położone koło Narwi — Ancuty, Rohozy i Żywkowo łączą się prawdopodobnie z nie znanym nam grodem w Narwi, po którym pozostało grodzisko Kuraszewo". Як у славутай паэме Янкі Купалы:

*На гары на крутой, на абвітай ракой,*
*Лет назад таму сотня ці болей,*
*Белы хорам стаяў, недаступнай сцяной*
*Грозна, думна глядзеў на прыволле.*

Этымалагічныя слоўнікі выводзяць слова *курган* з цюркскіх моў, дзе яно абазначала крэпасць, гарадзішча. А вось у скіфаў быў гэта надмагільны насып і гэтае значэнне перакачавала ад іх у нашу народную міфалогію. А чаму Курашава? У літоўскай мове слова *karas* абазначае вайну, і магчыма што вытворнае ад яго або яму падобнага *kuraszewo* абазначала акурат вынік вайны — знатную магілу. Янка Купала:

*Месца выбралі здатнае, вырылі дол,*
*Дол тры сажні шырокі, глыбокі;*
*Закапалі, убілі асінавы кол,*
*Далі насып тры сажні высокі.*

Тры сажні гэта каля шасці з паловай метра. Магчыма, што курган каля Нарвы крыху вышэйшы. Аднак усё апошняе быццам згаджаецца, быццам Янка Купала пісаў менавіта пра курган „w odległości półtorej wiorsty w górę Narwi, na jej lewym brzegu". Сёння брады саступаюць месца мастам, шаўкавістая зялёная траўка саступае месца асфальту ды адрэналін здаецца перамяшчацца ў новыя сферы чалавечай актыўнасці. Цікава, ці захавае яго вабнасць вытворная з фальклору паэзія?..

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**


ISSN 0546-1960